ГАЗЭТА БЕЛАРУСАЎ У ВОЛЬНЫМ СЬВЕЦЕ ЦАНА — PRICE ¢ 50

# Беларус

BIELARUS — BYELORUSSIAN NEWSPAPER IN THE FREE WORLD
POST ADDRESS: BIELARUS, P. O. BOX 109, JAMAICA, N. Y. 11431, Tel.: AX 1-8038

Год XXII, № 188 Нью Ёрк December — Сьнежань 1972 New York Vol. XXII, № 188

УСІМ НАШЫМ СУПРАЦОЎНІКАМ, ДАБРАДЗЕЯМ, ЧЫТАЧОМ І ПРЫХІЛЬНІКАМ, А ТАКСАМА ЎСЯМУ БЕЛАРУСКАМУ ГРАМАДЗТВУ

ВЯСЁЛЫХ КАЛЯДАЎ

**І ШЧАСЬЛІВАГА НОВАГА 1973 ГОДУ**

АД ШЧЫРАГА СЭРЦА ЖАДАЕ

*Рэдакцыйная Калегія „БЕЛАРУСА"*

## СЬВЯТКАВАНЬНЕ КОЛАСАВЫХ УГОДКАЎ У БССР

Юбілейныя ўрачыстасьці на 90-ыя ўгодкі ад нараджэньня Якуба Коласа былі праведзеныя 3 лістапада трохі вузей, чымся юбілей Янкі Купалы ў ліпені сёлета. Гэта затым, што некаторыя мамэнты Коласавага юбілею былі спалучаныя з Купалавым юбілеем і з культурнымі падзеямі, што мелі месца перад Коласавымі ўгодкамі. Гэтак юбілейная выстаўка выяўленчага мастацтва на тэму жыцьця й творчасьці абодвых паэтаў адбывалася ў часе Купалавага юбілею. Узноў-жа сьвята паэзіі, прысьвечанае Коласаваму юбілею, адбылося на бацькаўшчыне паэты — у Мікалаеўшчыне ня ў часе юбілею, а раней — 17 верасьня ў праграме Тыдня літаратараў народаў СССР, што праходзіў на Беларусі. У сувязі з гэтым у Коласавых урачыстасьцях прыймала ўдзел і меншая колькасьць прадстаўнікоў іншых літаратураў, чымся ў юбілеі Купалы. Але калі ўсе мамэнты коласаўскага юбілею ўзяць разам, дык юбілей гэты быў гэткай-жа вялікай культурнай падзеяй, як і юбілей Купалы.

Абодвы юбілеі былі сплянаваныя, падрыхтаваныя й праведзеныя паводля аднае й тае самае схэмы, апрацаванае партыйнымі органамі. Навет старшынём абодвых юбілейных камітэтаў была тая самая асоба: намесьнік старшыні Савету Міністраў БССР Ніна Сьняжкова. Партыйныя органы, як арганізатары ўгодкавых сьвяткаваньняў, зрабілі ўсё магчымае, каб абодвым юбілеям надаць зырка савецкі й камуністычны характар, а абодвых юбіляраў прадставіць як натхненных песьняроў савецкае эпохі. Тэндэнцыя гэтая асабліва моцна вычувалася ў дачыненьні да Якуба Коласа, які ў афіцыйных юбілейных выступленьнях быў прадстаўлены ня тым, кім ён быў у запраўднасьці.

Паводля мастацкага ўзроўню й ідэйнай сьціраванасьці ўся Коласава творчасьць, падобна як і творчасьць Купалава, дзеліцца на два розныя й цалком адменныя сваім характарам пэрыяды: пэрыяд нашаніўскі й першых пасьлярэвалюцыйных гадоў прыблізна да 1925 году, калі Колас быў духова вольны, і пэрыяд вымушанае на ім поўнае саветызацыі пасьля 1925 году. Усё найлепшае й найвыдатнейшае, што пакінуў ён па сабе, было створанае ў гэным першым пэрыядзе. Усё напісанае ім у другім пэрыядзе выяўляе зыркае зьніжэньне дасягнутых раней мастацкіх узвышшаў. Не маглі гэтага ня сьцьвердзіць навет савецкія дасьледвальнікі Коласавай творчасьці. Прыкладам, адзін зь іх Іван Навуменка у выдадзенай ім у 1967 годзе працы „Якуб Колас — духовы воблік героя", пры ўсім сваім жаданьні й намаганьні ўзвысіць Коласаву творчасьць савецкага часу, усё-ж быў змушаны сказаць: **„Пераважным аб'ектам мастацкага асэньсаваньня было для Коласа ўсё-ж такі дарэвалюцыйнае жыцьцё, на яго матарыяле ўзьніклі этапныя для ўсёй беларускай літаратуры творы – „Новая зямля", „Сымон Музыка", „На ростанях", вырасьлі манумэнтальныя мастацкія тыпы і характары".** З гэтае прычыны Навуменка вельмі бегла разглядае ў сваёй працы Коласавы творы савецкага часу, як мала характэрныя для Коласа, а пра ягоныя ваенныя паэмы „Адплата" і „Суд у лесе", як зусім мізэрныя з мастацкага боку, ня згадвае зусім. Коласавы-ж вершавыя хваласьпевы партыі й савецкім падзеям часу назваў Навуменка **„газэтнымі вершамі".**

Тымчасам у афіцыйных дакладах і прамовах на юбілейных урачыстасьцях літаратурныя дасягненьні Якуба Коласа былі насьветленыя ў зусім адваротным парадку. Супраць усіх аб'ектыўных дадзеных цьвердзілася, што якраз у савецкім пэрыядзе паэтычны талент паэты заіскрыўся небывалым блескам і дасягнуў свайго зэніту. Пра запраўдныя-ж узвышшы Коласавай творчасьці ў гэным першым пэрыядзе або ня згадвалася зусім, або, калі й згадвалася, дык адно як пра подступы да гэнага зэніту. Пры гэтым не абыйшлося й безь несамавітых кур'ёзаў. Гэтак пісьменьнік Іван Шамякін у сваім дакладзе на ўрачыстым юбілейным сходзе пра творчасьць Купалы й Коласа ў дарэвалюцыйным часе цьвердзіў гэткае: **„Паэзія Янкі Купалы і Якуба Коласа загучэла на пераломе гісторыі, калі на арэну сацыяльнай барацьбы выйшаў самы рэвалюцыйны клас — пралетарыят, калі набраў сілы яго авангард — партыя бальшавікоў, створаная Ленінам".**

У запраўднасьці-ж творчасьць Купалы й Коласа ня мела ніякага дачыненьня да гэнага „самага рэвалюцыйнага класа". Ні Колас, ні Купала ня прысьвяцілі ў гэным часе рабочай клясе ніводнага свайго верша. Творчасьць абодвых паэтаў вырастала сваімі вытокамі із сялянскага асяродзьдзя, якое ў гэным часе разглядалася як сынонім усяе беларускае нацыі. Яшчэ больш далёкай была іхная творчасьць ад гэнага „авангарду рабочага класа — партыі бальшавікоў", што ў гэным часе цалком нэгавала беларускае нацыянальнае пытаньне.

Але, апрача афіцыйных юбілейных выступленьняў, моцна прагучэлі й галасы неафіцыйныя. Зьявілася ў юбілейныя дні ў друку шмат выступленьняў беларускіх паэтаў і пісьменьнікаў зь вершамі й празаічнымі творамі, а таксама з крытычнымі артыкуламі, прысьвечанымі Якубу Коласу. Аўтары гэтых выступленьняў засярджваліся галоўна на дарэвалюцыйнай творчасьці паэты, увыпукляючы ейны глыбокі нацыянальны й патрыятычны характар. У гэтых выступленьнях, вольных ад зададзенага афіцыйнага шаблёну, была глыбака раскрытая існасьць вялікага таленту Якуба Коласа й сакрэт ягонага магутнага ўзьдзейваньня на народ.

Сьвяткаваньні Коласавых угодкаў, падобна як і ўгодкаў Купалы, мелі масавы ўсенародны характар. Яны былі адзначаныя ня толькі ў сталічным Менску, але і ўва ўсіх гарадох БССР, у культурных, навуковых і навучальных установах краю, у школах, на прадпрыёмствах, у калгасах і саўгасах. Коласаўскія ўгодкі выліліся ў усенародную нацыянальную маніфэстацыю, што выйшла з рамаў афіцыйнага сьвяткаваньня й сталася вялікай культурнай падзеяй нацыянальнага характару.

Важна й тое, што на 90-ыя ўгодкі ад нараджэньня Якуба Коласа былі створаныя або запачаткаваныя й некаторыя трывалкія культурныя мерапрыёмствы, што застануцца назаўсёды як каштоўнасьці беларускай культуры. Гэта перш-наперш устанаўленьне ў Менску імпазантнага помніка Якубу Коласу, створанага ведамым беларускім скульптарам Заірам Азгурам і архітэктарамі Ю. Градавам і Л. Левінам. Да гэткіх трывалкіх мерапрыёмстваў належыць і распачатае ўжо юбілейнае выданьне 14-цітомавага збору твораў Якуба Коласа. Праўда, гэта ня будзе яшчэ поўнае, а толькі „найбольш поўнае", як паведамлялася ў друку, выданьне Коласавай літаратурнай спадчыны. Яшчэ й гэтым разам шмат якія творы паэты, супярэчныя й нясугучныя партыйнай-лініі, будуць схаваныя ад чытача. Праведзенае на бацькаўшчыне Коласа — у Мікалаеўшчыне Сьвята паэзіі мае стацца зьявай сталай і адбывацца кажнага году на ўгодкі Коласавага нараджэньня.

Сяньня, у мамэнт вялізарнага насіленьня прапагандавага шуму з прычыны 50-ых угодкаў ад стварэньня СССР, у мамэнт нябывалага дагэтуль прапагаваньня агульнасавецкага патрыятызму, сьвяткаваньне Коласавага, як перад гэтым і Купалавага, юбілею дало нагоду беларускаму народу хоць на кароткі час сьціраваць ягоную ўвагу на свае нацыянальныя каштоўнасьці. Урачыстасьці гэтыя выклікалі высокі нацыянальны ўздым беларускага народу й сталіся магутным выяўленьнем ягонай патрыятычнай любасьці да ўсяго свайго роднага, натхненна апетага Якубам Коласам.

**Ст. Станкевіч**



**ПОМНІК ЯКУБА КОЛАСА**

**на пляцы, што носіць імя паэты, быў урачыста адслонены ў дзень Коласавых 90-ых угодкаў 3 лістапада сёлета. Васьмімэтровай вышыні бронзавы помнік створаны ведамым беларускім скульптарам Заірам Азгурам і архітэктарамі Ю. Градавам і Л. Левінам. Увесь помнік прадстаўляе сабой багаты мэмарыяльны камплекс: на блізкай адлегласьці ад фігуры паэты, якую бачым на ілюстрацыі, зь левага боку бронзавыя фігуры герояў „Сымона Музыкі" — Сымон іграе на йскрыпцы, а ззаду задуменная Ганна прыслухоўваецца да ягонай музыкі; з правага боку — фігура героя аповесьці „Дрыгва" Дзед Талаш із сваім сынам Панасам.**

**Паміж фігурай паэты й скульптурнымі групамі герояў ягоных твораў два штучныя маленькія азярцы. Па абодвых бакох звонку скульптурных групаў цягнуцца раўналежна да Праспэкту Леніна фантаны, а ўвесь камплекс акружаюць пасаджаныя маладыя бярозкі, дубкі, кусты бэзу й ніцая вярба . . . Калі глядзець з вышыні самалёту, дык уся кампазыцыя ўтварае два вялізарныя каласы, што сымбалізуюць літаратурнае імя паэты — Колас.**

## ЮБІЛЕЙ ЯНКІ КУПАЛЫ Й ЯКУБА КОЛАСА Ў СЫДНЭІ

18 лістапада сёлета Беларускае Аб'еднаньне ў Новай Паўдзённай Валіі (Аўстралія) ладзіла ўрачысты літаратурны вечар, прысьвечаны 90-ым угодкам ад нараджэньня Янкі Купалы й Якуба Коласа. Рэфэрат пра Якуба Коласа прачытаў А. Качан, падчыркваючы нязвычайна вялікую любасьць паэты да свайго краю й народу, ягонае глыбокае зразуменьне й вычуцьцё характару беларускага селяніна, ягоных патрэбаў, думак і лятуценьняў. Дакладчык адзначыў вялікае значаньне творчасьці Якуба Коласа для нашае літаратуры, а таксама для адраджэнскага руху й змаганьня нашага народу за незалежнасьць.

Пасьля дакладу сп-ня А. Каранеўская прачытала некалькі ўрыўкаў з „Новае Зямлі" й „Сымона Музыкі", стараючыся прыкладамі з творчасьці паэты пацьвердзіць сказанае дакладчыкам. З асаблівай прыемнасьцяй прысутныя выслухалі дэклямацыю 8-гадовага Алеся Зуя.

Рэфэрат пра Янку Купалу прачытаў М. Лужынскі. Знаёмячы слухачоў з жыцьцём паэты, ён аднача́сна паказаў разьвіцьцё ягонае, як чалавека, паэты, змагара, які ў канцы становіцца волатам беларускага слова, прарокам і правадыром беларускага народу, заклікаючы яго да змаганьня за незалежнасьць свайго роднага краю — Беларусі. Дакладчык зазначыў, што Купала ніколі не пагаджаўся з бальшавіцкай акупацыяй Беларусі й непахісна трымаўся ідэі вольнай і незалежнай Беларусі.

Пасьля рэфэрату Д-р Я. Малецкі прачытаў тры вершы Янкі Купалы.

Абодвы рэфэраты былі на высокім узроўні, добра абдуманыя й старанна апрацаваныя ды падыход да тэмы кажнага зь іх быў іншы, дзякуючы чаму шматлікія прысутныя суродзічы й госьці выслухалі іх зь вялікай увагай і прыемнасьцяй.

Вечар кончыўся бяседай, падчас якое выступіў прадстаўнік Украінскае Грамады ў Сыднэі сп. Жэстоўскі і выказаў найлепшыя пажаданьні для Беларусаў ды падзякаваў за прыемны й карысны вечар. І праўда, даўно чаканы вечар удаўся надта добра. Дзякуем і чакаем на наступны.

**А. К.**

**Вольга Корбут,** беларуская дзяўчына з Горадні, што заваявала на мюнхэнскай Алімпіядзе, разам з трыма залатымі мэдалямі сымпатыю міжнароднае аўдыторыі, мае праблему із сьпінным дыскам, што выявілася ў яе ў часе нядаўнага падарожжа ў Данію. Цяпер Вольга Корбут праходзіць курацыю на Каўказе, але надзея ня страчаная, што яна йшчэ будзе здольная выступаць у спартовых змаганьнях. Вестку пра гэта падала газэта „Нью Ёрк Таймс" (23. X. 72), а таксама некаторыя тэлевізійныя станцыі ЗША.

*КАЗІМЕР КАМЭЙША*

*Паэты, як рэкі, заўсёды.*

*Тут сорамна быць ручайком.*
*Ёсьць шчасьце*
*да вуснаў народу*
*Каціцца вялікай ракой.*
*Той талент быў Нёманам чыстым.*
*Ён быў паўнаводным яшчэ.*
*Ён плыў ля дубоў плячыстых,*
*Ён быў салаўёў званчэй.*
*Сьпявалі вясёлыя вольхі*
*То лісьцікам, то карой.*
*Вірыў ён,*
*адводзіў паводдаль*
*Ад песьні лязо тапароў.*
*Два дзядзькі — і Нёман, і Колас,*
*А голас сялянскі адзін:*
*„Плынь выгнем яшчэ раз падковай,*
*На шчасьце яе аддадзім . . .*
*. . . За час неўраджайны трывожна.*
*На сонцы папарымся, што-ж . . .*
*— За дожджык,*
*мой Нёман,*
*за дожджык!*
*— За дожджык, Якубе,*
*за дождж!"*
*І пойдуць у сьвет адгалоскі*
*І вырастуць у галасы.*
*Адскочаць пасьля адкалоскі*
*А можа і . . . каласы.*
*. . . Рака яго не зьмялела,*
*Зусім не змарнелі дубы.*
*Нясьмела у зарасьнік сьпелы*
*Прыходзяць з дажджамі грыбы.*
*Пачуецца хлапчуку:*
*— Адкуль ты, рака?*
*— З крыніцы!*
*— Куды ты?*
*— У вечнасьць цяку . . .*

*АВЯР'ЯН ДЗЯРУЖЫНСКІ*

*Па лясох,*
*Па палёх,*
*І па пожнях*
*Дзядзька Колас упэўненым крокам*
*ступаў,*
*Размаўляў ён з травінкай,*
*з былінкаю кожнай,*
*Кожны колас яму*
*песьню-мару шаптаў.*
*І сабе ўзяў ён прозьвішча — Колас,*
*Каб натхненьне жывілася*
*сокам зямлі,*
*Каб лунаў,*
*І мацнеў,*
*І дужэў яго голас,*
*І каб песьні*
*да сонца,*
*да шчасьця*
*вялі!*



**ПАШЫРАЙЦЕ ГАЗЭТУ "БЕЛАРУС"! ХАЙ КАЖНЫ ЕЙНЫ ПРЫХІЛЬНІК ПРЫДБАЕ ПРЫНАМСЯ АДНАГО НОВАГА ПАДПІШЧЫКА У НОВЫМ 1973 ГОДЗЕ**

**BIELARUS**

Byelorussian Newspaper in the Free World
Published monthly by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION, Inc.

Subscription $ 6.00 yearly.

**„БЕЛАРУС"** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
Выходзіць месячна. Рэдагуе Калегія.
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
Выпіска зь перасылкаю — 6 дал. на год.
Незамоўленыя рукапісы назад не зьвяртаюцца.

# "ДЭКЛЯРАЦЫЯ ПРАВОЎ НАРОДАЎ РАСІІ" ЗАСЛОНА ДЛЯ РУСЫФІКАЦЫІ

Пяцьдзесят пяць год таму, рыхтуючыся да захопу ўлады ў Расеі, бальшавіцкай партыі патрэбная была ўсякая магчымая дапамога, якую толькі можна было здабыць рознымі праграмнымі абяцанкамі. Аднэй з гэткіх абяцанак сталася „Дэклярацыя правоў народаў Расеі". Важнасьць нацыянальнага мамэнту для захопу ўлады ды ейнага ўтрыманьня Ленін вельмі добра разумеў. На пачатку кастрычніка 1917 году ў сваёй працы „Ці ўтрымаюць бальшавікі ўладу?" Ленін пісаў: **„Нацыянальнае** й аграрнае пытаньні, — гэта — карэнныя пытаньні для дробнабуржуазных масаў жыхарства Расеі ў сучасны мамэнт. Гэта бясспрэчна". Ленін заяўляў пры гэтым, што пралетарыят (пад гэтым ён падразумяваў сваю партыю) гатовы быў адкінуць старую палітыку „прыдзірства" й „крыўды" ды прызнаць, кажучы ягонымі словамі, „безадкладнае ўстанаўленьне **поўнае** (Ленін падчыркваў гэта слова) **поўнае** свабоды для Фінляндыі, Украіны, Беларусі, для мусульманаў і гэтак далей" (Ленін о нац., 456). „Мы хочам, паясьняў тады-ж Ленін сваю праграму, — каб рэспубліка рускага (я не ад таго, каб сказаць: вялікарускага, бо гэта правільней) народу прыцягнула да сябе іншыя нацыі, але чым? Ня гвалтам, а вылучна дабраахвотным пагадненьнем" (тамсама, б. 459).

Вось гэтай „прыцягальнай" сілай і мелася быць абвешчаная „Дэклярацыя правоў народаў Расеі". Апублікаваны 15 лістапада 1917 году дакумэнт гэты быў пакладзены ў васнову Савецкае Канстытуцыі й нацыянальнае палітыкі. „Дэклярацыя" абяцала роўнасьць і суверэннасьць народам былое царскае імпэрыі, права на самавызначэньне самастойных дзяржаваў. На аснове гэтага дакумэнту, між іншага, была прынятая 31 студзеня 1919 году пастанова „Аб прызнаньні незалежнасьці Беларускае ССР".

Адным з галоўных прызначэньняў „Дэклярацыі правоў народаў Расеі" было супрацьдзеіць праграмным дамаганьням нацыянальна-культурнае аўтаноміі з боку шмат якіх не-бальшавіцкіх нацыянальных партыяў, а таксама нацыянальных фракцыяў самое Расейскае Камуністычнае Партыі (бальшавікоў). Ленін выступаў катэгарычна й пасьлядоўна супраць нацыянальна-культурнае аўтаноміі, бо прынцып гэты, казаў ён, падзеліць рабочых і паслабіць іхную рэвалюцыйную моц. Тым ня менш, важнасьць нацыянальнае культуры, нацыянальнага пытаньня Ленін увесь час падчыркваў. Не займацца гэтым пытаньнем, паўтараў ён у 1919 годзе, „можна было-б, калі-б былі людзі без нацыянальных асаблівасьцяў. Але гэткіх людзей няма, і йнакш сацыялістычнага грамадзтва мы ніяк ня можам пабудаваць", (Ленін о нац. . . ., 485).

Сяньня, пад 55-ыя ўгодкі „Дэклярацыі правоў народаў Расеі" ды 50-ыя ўгодкі стварэньня Савецкага Саюзу набыло вялікае палітычнае актуальнасьці й тэарэтычнае праблемнасьці пытаньне пра гэтак званую „адзіную шматнацыянальную сацыялістычную культуру". Пра йснаваньне гэткае культуры вельмі шмат пішацца цяпер у партыйным друку. Гэтак у жнівенскім нумары часапісу „Коммунист Белоруссии" Бармічаў запэўняе свайго чытача, што „агульна-савецкая культура ўсё больш ператвараецца ў вадзіную багатую шматнацыянальную культуру новае гістарычнае супольнасьці людзей — савецкага народу" (б. 42).

З другога боку, газэта „Зьвязда" надрукавала 21 кастрычніка сёлета артыкул прафэсара Карлюка „Збліжэньне й адзінства нацый", у якім чытаем: „Савецкі народ, як новая гістарычная супольнасьць людзей, не зьяўляецца нейкай новай сацыялістычнай нацыяй . . . Руская, украінская, беларуская і іншыя нацыі не раствараюцца ў савецкім народзе, Яны захоўваюць сваю нацыянальную дзяржаўнасьць, сваю мову, нацыянальную сьвядомасьць, асаблівасьці культуры". „Існаваньне нацыянальных адрозьненьняў, — сьцьвярджае ў тым-жа сваім артыкуле доктар філязофскіх навук прафэсар Карлюк, — існаваньне нацыянальных адрозьненьняў зьяўляецца непарушным фактам . . . "

Сучасны стан і кірунак разьвіцьця культуры Савецкае Беларусі — найлепшы паказальнік тае гістарычнае ролі й палітычнага сэнсу, які мела „Дэклярацыя правоў народаў Расеі", што была пакладзеная ў васнову нацыянальнае палітыкі савецкае фэдэрацыі. „Культура, — піша ў сваёй кнізе Сымон Ешын „Развитие культуры в БССР за годы Советской власти", — найбольш поўна адлюстроўвае нутраны зьмест грамадзкага ладу" (б. 3). Які „нутраны зьмест" грамадзкага ладу на Беларусі адлюстроўвае беларуская савецкая культура? Якою меркаю перш-наперш гэтую культуру вымяраць? Сымон Ешын у тэй-жа сваёй кнізе „Развитие культуры в БССР", першай гэткага роду працы ў рэспубліцы, выдадзенай у 1970 годзе, кажа, што „ўсё шматвекавое разьвіцьцё духовае культуры, аж да самых высокіх і дасканальных ейных формаў, адбывалася ў канчальным выніку на глебе народных традыцыяў, на аснове створанае народам мовы" (б. 8). Францішак Багушэвіч разумеў гэтую існасьць, калі зварачаўся да Беларусаў у канцы мінулага стагодзьдзя з заклікам: „Не пакідайце-ж мовы вашай беларускай, каб ня ўмерлі!"

На якім-жа месцы ў сучаснай Беларусі, 55 год пасьля таго, як „Дэклярацыя правоў народаў Расеі" задэкляравала права й нашаму народу на незалежнасьць, свабоду, роўнасьць, стаіць беларуская мова, як паказальнік культуры Беларусаў? Сымон Ешын у сваёй згадванай ужо тут кнізе кажа, што „у сучасным навуковым разуменьні пад культурай падразумеваюць усю сукупнасьць матар'яльных і духовых вартасьцяў, якія мае чалавецтва ў дадзены мамэнт" (б. 5).

Калі духовыя вартасьці „аж да самых высокіх і дасканальных формаў" разьвіваюцца „ў канчальным выніку на глебе створанае народам мовы", дык беларуская мова й павінна разглядацца, як галоўны вымяральнік культуры сучаснае Беларусі. А тымчасам застаецца незапярэчным факт, што беларуская мова поўнасьцяй выцiснутая расейскай мовай з галіны вышэйшае асьветы. Восемдзесят працэнтаў кніжнае прадукцыі Беларусі выдаецца ня ў мове народу рэспублікі, а ў расейскай мове. З чатырнаццацёх прафэсійных тэатраў рэспублікі адно тры тэатры працуюць у беларускай мове. Сымбалічна, што й кніга Сымона Ешына пра культуру Беларускае ССР выдадзеная парасейску, і калі заглянуць у сьпіс літаратуры, якою аўтар карыстаўся для напісаньня свае працы, дык там не названа аніводнае працы ў беларускай мове. Калі прыняць палажэньне прафэсара Карлюка, што „савецкі народ не зьяўляецца нейкай новай сацыялістычнай нацыяй", ды што „беларуская і іншыя нацыі не раствараюцца ў савецкім народзе", дык выцісканьне беларускае мовы з розных сфэраў жыцьця Беларускае рэспублікі, падмена яе мовай расейскай ня можа быць інакш названая, як русыфікацыя. А з гэтага лягічна вынікае й выснова, што да запраўднага значаньня і гэнае „Дэклярацыі правоў народаў Расеі", і іншых праграмных дакумэнтаў нацыянальнае палітыкі савецкае ўлады, і сучасных цьверджаньняў пра г. зв. „раўнапраўнасьць" на Беларусі — ўсё гэта адно прыхваткі, тактычныя манэўры партыйнага цэнтру дзеля ўтрыманьня поўнага кантролю над Беларусяй.

**Я. Запруднік**

# БЕЛАРУСКІЯ ПАЭТЫ Й ПІСЬМЕНЬНІКІ НА ЎГОДКІ ЯКУБА КОЛАСА

У дзень Коласавых угодкаў 3 лістапада ўва ўсіх беларускіх савецкіх газэтах зьявілася, падобна як і на 90-ыя ўгодкі Янкі Купалы ў ліпені сёлета, шмат вершаў беларускіх паэтаў, артыкулаў і ўспамінаў беларускіх літаратараў, культурных і навуковых працаўнікоў, а таксама й пісьменьнікаў іншых народаў, прысьвечаных Якубу Коласу. У вабставінах партыйнае дыктатуры й шматступеннае савецкае цэнзуры вялікая колькасьць водгукаў на Коласавы ўгодкі насіла казённы характар і была паўтарэньнем ведамых шаблёнаў пра быццам бязьмежную адданасьць народнага паэты партыі й камунізму.

Але, побач з гэткімі, усё-ж трапляліся й шчырыя выказваньні беларускіх паэтаў і пісьменьнікаў пра іхнае разуменьне Якуба Коласа, як наскрозь нацыянальнага й самабытна народнага паэты, раскрываліся глыбокія тайніцы ягонае творчасьці й сакрэты ягонага вялізарнага ўзьдзейваньня на чытачоў часамі куды глыбей і дакладней, чымся ў прафэсыйных навуковых працах і дасьледваньнях.

У якасьці найлепшых прыкладаў разуменьня й асэнсоўваньня Якуба Коласа, як нацыянальнага паэты, а ягонае творчасьці, як наскрозь нацыянальнай зьявы, прыводзім два, прысьвечаныя Якубу Коласу, вершы маладых паэтаў Казімера Камэйшы й Авяр'яна Дзяружынскага, кароткі, але багаты зьместам артыкулік шырака ведамага беларускага пісьменьніка Васіля Быкава ды зь некаторымі скарачэньнямі артыкул маладога беларускага паэты Янкі Сіпакова, усе зь юбілейнага Коласавага нумару газэты „Літаратура і Мастацтва" за 3 лістапада.

## ЗАЙЗДРОСНЫ ЛЁС

Доўгі час у раньнім дзяцінстве я быў зачараваны ягонай „Дрыгвой", пасьля прыйшло захапленьне „Новай Зямлёй" і „Сымонам Музыкам"; здавалася амаль цудам стварэньня ім гэткія жывыя і яркія малюнкі жыцьця, думалася: на гэта здольны толькі чалавек нязвычайны, волат думкі і чараўнік слова. Калі-ж праз колькі гадоў прыйшло разуменьне законаў літаратурнай творчасьці, грамадзкіх абставін і эстэтычных вытокаў таленту, тады шчасьліва і радасна адкрылася, што між усяго і, можа, найперш за ўсё, у ім жыў таленавіты вясковы настаўнік, адзін з тых бескарысьлівых падзьвіжнікаў у нашым народзе, якія на зары яго нацыянальнага абуджэньня спасьцiглі сэнс сусьветнай культуры і да войстрага болю ў сэрцы адчулі свой гістарычны абавязак перад беднай, пагарджанай, цёмнай старонкай.

І толькі цяпер, з нашага сёньня, з усёй выразнасьцю бачыцца, што ён быў ня тое і ня другое паасобку, а быў разам і чараўнікам слова, і вясковым настаўнікам — народным інтэлігентам, які праз усё жыцьцё горда пранёс свой шматпакутны абавязак перад народам, і што ўсё гэта ў вадзіным сваім спалучэньні выкрышталізавалася ў ім у нацыянальнага гэнія, аднаго зь першых, чыё імя цяпер ужо назаўжды ўвойдзе ў гісторыю культуры народу і будзе жыць у ім, пакуль будзе існаваць адораны ягоным словам народ.

Слаўны, нялёгкі і велічны лёс яго будзе навек асьвятляць нашу сьціплую працу ўсё на тэй-жа аранай і пеставанай ім і такімі, як ён, беларускай ніве.

**Васіль Быкаў**

## СЬВЯТА НА КОЖНЫ ДЗЕНЬ

Прыгажосьць, нікім не заўважаная, — гэта яшчэ ня прыгажосьць. Яна робіцца нашай сьветлай радасьцю толькі тады, калі мы — можа неспадзявана, а можа ў нецярплівым чаканьні — раптам, узрушаныя і ўражаныя, спыняемся перад ёю . . .

Але і радасьць, калі яна толькі ў табе, толькі для цябе аднаго, — гэта яшчэ таксама ня радасьць. Яна праменіцца, нібы сьвята, толькі тады, калі нам ёсьць зь кім падзяліцца ёю. І якое шчасьце мець на гэты час даверлівага і адданага субяседніка — чытача, які шчыра разумее тваё хваляваньне!

Якуб Колас, зачараваны хараством прыроды і красою жыцьця, верыць у свайго чытача і, нібы сьпяшаючыся выгаварыцца, хутчэй дзеліцца зь ім хваляваньнем, убачанай прыгажосьцю. Яму цесна ад гэтага хваляваньня, яму няёмка цешыцца радасьцю аднаму — зірніце, маўляў, якая яна непаўторная! Адкрывае не назойліва, бяз прымусу. Здаецца нават, што ён проста расказвае свайму сябру, ці, можа, зусім невядомаму чалавеку, які выпадкова сустрэўся на дарозе, пра адкрытую ім прыгажосьць, убачыўшы якую, цяжка і недаравальна маўчаць ня толькі паэту, але і кожнаму чалавеку. Ці не таму ў час такой шчырай размовы паэтаў вершаваны радок набліжаецца да размоўна-назоўнага гучэньня:

*Мароз, зіма,*
*Сьнягі вакол,*
*І сьпіць трава,*
*Пад сьнегам дол.*

Паэзія Якуба Коласа — такая-ж натуральная, такая простая і такая складаная, як і сама прырода. Зьліцьцё чалавека і прыроды ў яго вершах вельмі-ж ужо непасрэднае і непадзельнае. Бо сама творчасьць — гэты найвышэйшы ўзьлёт чалавечага розуму і пачуцьця — відавочна, такое-ж самае таінства, як і жыцьцядайная, нябачаная праца прыроды. Бо напоўніць вечным зьместам толькі адзін радок сапраўднага верша ці нават адно-адзінае слова, гэта, мусіць, такая-ж нялёгкая работа, як і ўзрадаваць зялёным хлярафілам, магутнаю сілай існаваньня найвялікшы цуд сьвету — звычайны зялёны лісток.

На кожную пару году, амаль на кожную зьяву ў прыродзе ёсьць у паэты свая радасьць — ці то сьветла-журботная ,ці то пранізьліва-захопленая. Усход і захад сонца, першы гром і адлёт жураўлёў, зіма і вясна, ноч перад навальніцай і касьба, жніво — усё гэта тыя „вобразы мілыя роднага краю", безь якіх-бы вельмі зьбеднена адчувала сябе наша сёньняшняя літаратура.

Часам нават і сам не заўважаеш, адкуль бярэцца яна, гэтая ўсхваляваная сіла Коласавай паэзіі, якая, нібы імклівая плынь, доўга бунтуе ў табе такімі простымі і такімі нязвычайнымі радкамі. Скажа ён, да прыкладу:

*Чуецца гоман мне сьпелае нівы,*
Ці:
*Лес, як дзед убогі*
*З доўгімі вусамі,*
Ці:
*Замірае лета,*
*Заціхаюць далі,*
*Сірацее рэчка,*
*Халадзеюць хвалі, —*

і ты, нібы зачараваны, доўга, як у песьні, будзеш услухоўвацца ў гэтыя словы і зьдзіўлена пытацца ў самога сябе, адкуль, ну адкуль-жа спадае на цябе гэтая замілаванасьць, урачыстасьць, лёгкая журба.

На першы, абыякавы погляд апошнія радкі, узятыя зь верша „Адлёт жураўлёў", могуць здацца звычайным пералікам уражаньняў. Але ўгледзішся, услухаешся ў іх, і зразумееш, у якім адзіна патрэбным парадку стаяць яны. Здавалася-б, звычайныя словы — „замірае", „заціхаюць", „сірацее", „халадзеюць"! Сам адчуваеш, як многа значыць і як многа дае вось гэтае звычайнае, ціхае: „Сірацее рэчка".

Усё тут, сапраўды, звычайнае. Усё знаёмае. Усё простае. Але да такой натуральнай прастаты — заўсёды вельмі-ж доўгая дарога роздумаў, пошукаў, хваляваньня. За гэтай прастатою — упартая прага заўважыць пановаму, пасвойму тое, што ўжо даўно вядома, каля чаго мы абавязкова праходзім ледзь ня кожны дзень. І таму такая, калі хочаце, нязмушаная прастата — сапраўдная паэзія. А сапраўдную паэзію вельмі цяжка растлумачыць.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Таксама немагчыма растлумачыць, адкуль і калі пачынае струменіць чысты выток Коласавай паэзіі, нельга растлумачыць, чаму нас так хвалююць пасьля яго дотыку ўсё тыя-ж простыя і звычайныя словы, зьявы. Цікава, дзе-ж ён, сакрэт коласаўскай паэзіі?

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Па вельмі-ж ужо сваясаблівай і непасрэдна ўскалошанай паэзіі Якуба Коласа, гэтак-жа як і па земляной, густой прозе Кузьмы Чорнага, як і па даверліва-народнай лірыцы Янкі Купалы, лягчэй падбірацца да распазнаньня і разуменьня душы Беларуса, можна лепей мяркаваць пра тыя шчасьлівыя набыткі, якія звычайна даюць магчымасьць гаварыць пра нацыянальныя асаблівасьці паэты. У Коласа нават разуменьне прыроды не адвольнае, ня сусьветнае, якое можа, скажам, адчуваць нейкі ўмоўны чалавек, умоўна прыняты за нейкую адзінку пачуцьця, а канкрэтнае, адкуль шырока вырастае непасрэдная лучнасьць з усёю прыродаю, лучнасьць менавіта Беларуса, які добра ведае, да прыкладу, што значыць для яго гаспадаркі першы гром ці той-жа журботны адлёт жураўлёў. Відаць, таму ў многа якіх вершах паэты зацята змагаюцца зіма і вясна, сіверны холад і шчодрае сонца; відаць, недзе там нарадзілася і такая, як плач, як просьба, шчымлівая ўпэўненасьць:

*Вясна, вясна*
*Жаданая!*
*Ты прыйдзеш зноў,*
*Ты вернешся!*

Па глыбока заземленых творах Я. Коласа можна плённа вывучаць матарыяльную культуру Беларусаў. Ён вельмі дакладна ведаў усё, пра што ні браўся пісаць. Ён, здаецца, нічога не абмінуў: і чым Беларус араў, скародзіў сваю палоску; і якія стравы ўпрыгожвалі небагаты сялянскі стол у сьвяточныя дні, і што ставілася на кожны дзень; і якая сьвітка грэла халоднай зімой лепей. Якія птушкі весялілі беларускія лясы, якія краскі радавалі беларускія лугі, якія крыніцы давалі сілу яго зямлі; з чаго Беларус піў квас, у што абуваўся, як праводзіў ён свой вольны час, якога ў яго заўсёды было да крыўднага мала, — пра ўсё гэта, прачытаўшы ўважліва Коласа, можа даведацца нават і той, хто ніколі ня быў у Беларусі. Памятаеце, як падрабязна выпісаны лясны дол, дзе „чаборык, мох, зязюльчын лён і верасок агністадымны?". А хіба можна застацца абыякавым да тэй мясьціны з „Новай Зямлі", дзе дзядзька выбірае касу? Якое веданьне і дзядзькавага характару і характару тэй гаваркой касы, якую, нібы жонку, выбірае чалавек, здаецца, на ўсё жыцьцё.

Перачытваючы Якуба Коласа, неяк міжволі прыходзіш да думкі, што ў яго доўга, вельмі доўга сьпела, а потым ніколі не пакідала паэту вялікая патрэба жыцьця — „аддаць падзяку зямлі і небу". За што? А проста за тое, што чалавек жыве, можа і пакутуе, можа і галадае, можа і халадае, але-ж мае радасьць цешыцца ўсходам сонца, слухаць песьні птушак, углядацца ў глыбокі блакіт таямнічага неба. І пасьля ўжо гэтая думка выкрышталізуецца ў сваясаблівую формулу:

*О, каб я меў такія рукі,*
*Зямля, абняў-бы я цябе . . .*

І кожнаму, хто сёньня і далёкі ад паэзіі, відаць, варта толькі нагадаць пра пясьняра, як само сабою, зь нейкіх даўніх і зварушлівых успамінаў усплываюць радкі, якія напомняць пра школу: „Мой родны кут, як ты мне мілы!" або „Уцякай, мароз-дзядуля! Чуеш ты, стары, ці не? На пагорках — булі-гулі! — песьні чуюцца вясьне", або: „Між алешын, кустоў, дзе пяе салавей, і шуміць і грыміць срэбразвонны ручэй".

Часам, занятыя сваімі будзённымі клопатамі, мы неяк ня вельмі задумваемся, як многа значыць для нас, для нашай літаратуры Якуб Колас — гэты сапраўды народны паэта із шчыраю, сьветлаю душою сейбіта. Паэта, у якога, як у таго добразычлівага і запасьлівага беларускага хлебасея, заўсёды прыхавана радасьць на кожны дзень.

І сьвята — таксама на кожны дзень.

**Янка Сіпакоў**

## НАШ УДЗЕЛ У ЎКРАІНСКІХ УРАЧЫСТАСЬЦЯХ

15 кастрычніка сёлета ў Украінскім Цэнтры ў Лёс Анджэлесе адбылася вялікая дзіцячая праграма ўкраінскіх народных танцаў і сцэнічных абразкоў, наладжаная спняй Н. Пракопій. У праграме прыймалі ўдзел і беларускія танцоркі Ядзя й Карнэля Найдзюкі.

29 кастрычніка ў украінскай мастацкай праграме моладзі Таварыства за Патрыярхальны Лад Украінскай Каталіцкай Царквы, Аддзелу ў Лёс Анджэлес, прыймала ўдзел і Беларуска Карнэля Найдзюк.

# БЕЛАРУСЫ ЗА НІКСАНА-АГНЮ

СПРАВАЗДАЧА ЗЬ ДЗЕЙНАСЬЦІ РУХУ




**Д-р Вітаўт Кіпель у Вашынгтоне ў нарадах з Дырэктарам Аддзелу Нацыянальнасьцяў Рэспубліканскай Партыі Лясьлё С. Пастарам (пасярэдзіне) й Галоўным кіраўніком кампаніі за Прэзыдэнта Ніксанам Кларкам Мэк Грэгарам (зьлева).**

Выбарны рух „Беларусы за Ніксана-Агню" пачаўся ў верасьні сёлета. Да гэнага часу выбарная прапаганда сярод Беларусаў ЗША вялася Беларуска-Амэрыканскімі Рэспубліканскімі Клюбамі. На старшыню руху, на прапанову Беларускага дарадніка Аддзелу Нацыянальнасьцяў Цэнтральнага Рэспубліканскага Камітэту, Д-ра Ст. Станкевіча быў зацьверджаны гэтым Камітэтам у Вашынгтоне Д-р Вітаўт Кіпель. Як было й заплянавана, рух за Ніксана-Агню меў ахапляць і каардынаваць выбарную кампанію ня толькі рэспубліканскіх клюбаў, але й прыхільнікаў Дэмакратычнай партыі, а таксама й „незалежных". У выпадку беларускім гэтак і сталася — адразу наладзілася супрацоўніцтва між беларускімі рэспубліканскімі клюбамі ў штатах, дзе такія клюбы існуюць, а таксама сябрамі й прыхільнікамі Дэмакратычнай партыі, што выказалі згоду галасаваць за Ніксана-Агню.

Філіі руху былі зарганізаваныя ў штатах Каліфорнія, Канэктыкат, Дэлявар, Флярыда, Іліной, Нью Джэрзі, Нью Ёрк, Огаё, Пэнсыльвэнія, Віскансін ды ў гарадох — Нью Ёрк, Рочэстар, Бафало, Трэнтон, Камдэн, Пасэйк, Скрэнтон і Ньюварк. Галоўная гаспода руху была адчыненая ў Гайлэнд Парку, Нью Джэрзі, а адказнымі за справаводзтва й дзейнасьць галоўнай гасподы былі вызначаныя П. Кажура, М. Войтанка, С. Гутырчык і А. Лысюк.

У першых тыднях выбарнае кампаніі асноўная дзейнасьць руху йшла ў кірунку вэрбоўкі дабраахвотнікаў для працы ў выбарнай кампаніі. На пачатку кастрычніка беларускія філіі руху пачалі арганізацыю выбарных мітынгаў.

**КАЛІФОРНІЯ.** Кіраўніцтва руху ачольвалі Я. Арцюх, Ч. Найдзюк і К. Вайцяхоўскі. Беларуская дэлегацыя ўдзельнічала ў мітынгах у Сан Францыска, Лёс Анджэлес і Сакрамэнто. Багатая мастацкая праграма была паказаная беларускай танцавальнай групай „Мяцеліца" пад кіраўніцтвам К. Вініцкай 6 кастрычніка на інтэрнацыянальным мітынгу ў Лёс Анджэлесе. Беларуская дэлегацыя прыймала таксама ўдзел у спатканьні Прэзыдэнта Ніксана. Я. Арцюх, як сябра штатавага Рэспубліканскага Камітэту, удзельнічаў у паседжаньнях гэтага Камітэту 30 верасьня, на якім абмяркоўвалася з губэрнатарам штату Рэганам і Кларкам Мэк Грэгарам, галоўным кіраўніком выбарнай кампаніі, кампанія ў Каліфарнійскім штаце.

**КАНЭКТЫКАТ І ДЭЛЯВАР.** Кіраўнікі руху ў гэтых штатах В. Кажан, Л. Норык і А. Шастак былі дзейнымі ў вэрбаваньні ахвотнікаў для выбарнае акцыі.

**ФЛЯРЫДА.** Кіраўнічка руху сп-ня Л. Брылеўская прыймала ўдзел у некалькіх мітынгах, а таксама ў Рэспубліканскай Канвэнцыі ў Міямі Біч.

**ІЛІНОЙ.** Сп-ня Вера Рамук, кіраўнічка руху ў гэтым штаце, рэпрэзэнтавала Беларусаў у некалькіх штатавых зьездах ды навязала цеснае супрацоўніцтва із штатавай галоўнай гасподай „Народ за Сэнатара Пэрсы".

**МЭЙН, МЭРЫЛЭНД і МАСАЧУСЭТС.** Беларускія дэлегацыі гэтых штатаў удзельнічалі ў передвыбарных мітынгах у Бастоне й Балтыморы 15 і 22 кастрычніка.

**МІЧЫГАН.** Кіраўнік руху інж. Я. Бруцкі распачаў перадвыбарную кампанію вельмі рана і ўцягнуў у працу значную колькасьць Беларусаў штату. Беларускія дэлегаты ўдзельнічалі ў 15-ёх мітынгах і шмат уклалі працы ў кампанію за Сэнатара Р. П. Грыфіна.

**НЬЮ ДЖЭРЗІ.** Беларуская выбарная кампанія ахапіла акругі гэтага штату: Атлэнтык, Бэргэн, Эсэкс, Гудзон, Мідлсэкс Юньён і Самэрсэт ды гарады: Баён, Камдэн, Трэнтон, Элізабэт, Пасэйк. Ньюварк, Патэрсон, Нью Брансьвік і Саўт Рывэр. Апрача працы сярод Беларусаў штату, Беларусы актыўна супрацоўнічалі із штатавай Рэспубліканскай Фэдэрацыяй Нацыянальнасьцяў. На зарганізаваных Беларусамі мітынгах у Кліфтоне прысутнічала блізу 650 чалавек, у Патэрсоне — каля 300 чалавек, Нью Брансьвіку — каля 450 чалавек і Ньюварку — 400 чалавек, што трэба заўдзячваць дапамозе сяброў Асацыяцыі Беларускіх Вэтэранаў у Пасэйку, сябром БАЗА ды сябром Беларускага Кангрэсавага Камітэту.

Важным мамэнтам кампаніі ў Нью Джэрзі было наведаньне Дырэктарам Аддзелу Нацыянальнасьцяў Цэнтральнага Камітэту Рэспубліканскай Партыі Лясьлё Пастарам 29 кастрычніка Беларускае Галоўнае Гасподы ў Гайлэнд Парку. Д-р В. Кіпель выступаў з прамовамі на мітынгах у Кліфтане, Элізабэт, Хобокэн і Трэнтон. Беларусы Нью Джэрзі завэрбавалі ў кампанію колькі сотняў Італьянцаў, Палякаў, Ірляндцаў і Немцаў.

**НЬЮ ЁРК.** Беларуская група ўдзельнічала ў 6-ёх мітынгах Нью Ёрку, а таксама ў гарадох Бафало, Рачэстар, Албані і Бінгтамтон. Вялікую прапагандавую працу правялі сябры Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскай Моладзі на чале з Раяй Станкевіч. Беларуская моладзь удзельнічала ў адчыненьні Прэзыдэнтам Ніксанам Нацыянальнага Музэю Іміграцыі ў Нью Ёрку, Дні Калюмба, парадзе Von Steuben і іншых імпрэзах, нясучы англамоўныя плякаты „Свабоду Беларусі" і „Беларусы за Ніксана". Два перадвыбарныя мітынгі адбыліся ў Беларускім Грамадзкім Цэнтры ў Нью Ёрку, у Брукліне й на рэсорце Менск.

**ОГАЁ.** Кіраўнік руху Я. Раковіч рэпрэзэнтаваў Беларусаў на колькіх мітынгах і зьездах. Вялікую прапагандовую справу зрабіла Кліўлендзкая беларуская калёнія пры спатканьні Прэзыдэнта Ніксана на лётнішчы 28 кастрычніка. Група ў колькасьці 20 чалавек выдатна запрэзэнтавалася нацыянальнай вопраткай, што Прэзыдэнт Ніксан зьвярнуў на яе ўвагу й асабіста прывітаўся з многімі Беларусамі.

**ПЭНСЫЛЬВЭНІЯ.** Дзейнасьць Беларусаў абмяжоўвалася да рэкрутаваньня дабраахвотнікаў для выбарнай кампаніі, а сп. Герасімовіч рэпрэзэнтаваў беларускую групу на некалькіх мітынгах.

**АГУЛЬНЫЯ ДАДЗЕНЫЯ.** Былі надрукаваныя заклікі, каб Беларусы запаўнялі карткі дабраахвотнікаў, лёзунгі ў беларускай і ангельскай мовах, адмысловыя адозвы Каліфарнійскага й Огаеўскага аддзелаў, ды адозва Галоўнай Выбарнай Гасподы ў Гаэлйнд Парку. Усе друкаваныя матарыялы выбарнай кампаніі былі зрыхтаваныя бясплатна й афармленыя братамі Сьцяпанам і Юркам Наумчыкамі і Сяргеем Касьцюком, а вялікя лёзунгі ў колерах сп-чняй Раяй Станкевіч.

Усяго ў часе выбарнай кампаніі 1972 беларускія групы ўдзельнічалі ў 91 мітынгу. Было разаслана звыш 1000 спэцыяльных лістоў і лістовак, раздадзена каля 1000 картак дабраахвотнікаў. Агулам Беларусы ЗША ўлажылі каля 3000 гадзінаў працы ў выбарнай кампаніі.

**Вітаўт Кіпель**



**Рэспубліканскі Сэнатар Робарт П. Грыфін ад штату Мічыган з прадстаўнікамі Беларусаў Дэтройту інж. Я. Бруцкім (зьлева) і М. Прускім (справа). У васобе Сэнатара Грыфіна Беларусы Дэтройту мелі свайго шчырага прыяцеля й добрага знатака беларускіх справаў, а таму й вялі актыўную кампанію за ягонае перавыбраньне на новую кадэнцыю.**



**Лясьлё С. Пастар у Беларускай Выбарнай Гасподзе ў Гайлэнд Парк**

## СЯРЭБРАНЫЯ ЎГОДКІ Ў СЫДНЭІ

28 кастрычніка адбыўся ў Сыднэі юбілейны банкет, зладжаны Спадарствам Надзяй і Нінай Лужынскімі з нагоды 25-годзьдзя іхнага сужэнства. Яны пажаніліся яшчэ ў Заходняй Нямеччыне, у Ватэнштэце.

У 1950 годзе яны прыбылі ў Аўстралію, каб распачаць новае нармальнае жыцьцё. За гэты час прыдбалі трое мілых дзетак: Часлава, Гэленку й Нэлі, собскі дом, добрую працу й шмат прыяцеляў. Довадам гэтага была цэлая сотня гасьцей, што з энтузіязмам ад шчырага сэрца дзяліла іхную радасьць на юбілейным вечары. Прысутнічалі ўсе дзейныя Беларусы, а таксама й прадстаўнікі іншых нацыянальнасьцяў.

Надзя й Міхась Лужынскія прывезьлі з сабой з Ватэнштэту ў далёкую Аўстралію моцны патрыятызм, любасьць да сваёй мовы й звычаяў, а таксама пашану да людзей. Дык і ня дзіва, што сяньня яны цешацца тут вялікай папулярнасьцяй як сярод Беларусаў, гэтак і Аўстралійцаў. Ня бывае беларускай урачыстасьці бяз удзелу Міхася і Надзі Лужынскіх. Надзя — гаспадыня ўсіх пачастункаў ды заўсёды актыўная ў прыхарошваньні залі. Міхась-жа — сябра ўправы Беларускага Грамадзкага Клюбу ў Сыднэі, а 8 кастрычніка выбраны за старшыню Беларускага Аб'еднаньня ў Новай Паўдзённай Валіі.

Застаецца пажадаць ім доўгіх гадоў шчасьлівага далейшага сужэнства й дачакацца залатога юбілею. Дык хай-жа сьцежка іхнага жыцьця серабрыцца спакойна й бескалапотна.

**Сябры**

---

сына Кейстут, што Ягайла здраджвае інтарэсам Літвы, і той не даваў гэтаму веры, аж пакуль у Вільні ня былі захопленыя патаемныя пісьмовыя ўмовы таго з крыжакамі.

Нарэшце Ягайла падманным чынам, праз нарушэньне клятвы, паланіў у Вільні свайго дзядзьку Кейстута, разам з Вітаўтам, у кайданох адвёз іх у Крэва. Там, як паведамляе хроніка „Летапісец вялікіх князёў Літоўскіх": „. . . а пятай начы князя вялікага Кейстута задушылі каморнікі вялікага князя Ягайлы" — і далей называе тых наемных забойцаў, якіх ачольваў тагачасны лёкай — „Прокша, што воду даваў яму". Прашу прабачэньня ў глыбокапаважаных чытачоў за вульгарны выраз, аднак як-жа характэрна, што найбольш тыповы з сучасных БССР-аўскіх халуёў Масквы афіцыйна мянуецца — Лявон Прокша.

Тая-ж гвалтоўная сьмерць чакала й Вітаўта, каб не дапамагла яму ўцячы ягоная жонка Ганна, але ня была пры Кейстуту адданая яму Бірута і тады-ж, магчыма, перавярнуліся ў труне косьці князя Альгерда. Усё гэтае здарылася тут у Крэве і можа якраз у вялікай вежы замку, бо вядома, што праз яе, абмінуўшы вартаўнікоў ля брамы, выратаваўся ўночы Вітаўт.

У 1384 годзе, праз чатыры гады па сьмерці Кейстута, што вызначала сабой канец старое Літвы, тут-жа адбылася падзея, ведомая ў гісторыі, як Крэўская вунія. Яе можна было-б толькі вітаць, каб яна ўяўляла сабой сяброўскую ўмову двух незалежных дзяржаваў — Літвы й Польшчы — аб сумесным змаганьні з крыжакамі, але-ж ейны акт канчаўся забавязаньнем Ягайлы: „Землі свае Літоўскія і Рускія на вечныя часы да Кароны Польскае прылучыць". У тым-жа годзе, наўмысьля ў тутэйшым касьцеле, адбыўся ягоны шлюб з польскай каралевай Ядвігай, што меў на мэце ўмацаваць далучэньне Літвы да Польшчы.

І хай сабе гэты акт Крэўскае вуніі, які адразу-ж выклікаў абурэньне Беларусаў і Літоўцаў, сьпярша ня выконваўся. Хай сабе Вітаўт, які ачольваў гэтае абурэньне, стаўся неўзабаве вялікім князем Літвы, аднак пазьней Палякі не дазволілі яму каранавацца на ейнага караля, а самая сьмерць ягоная ў прысутнасьці Ягайлы, здаецца, навет на думку польскага гісторыка Яна Длугоша, таямнічай. І гэта, магчыма, тут, у той-жа самай вялікай вежы, закладзены падмурак пагібелі Вялікага Княства Літоўскага, якое перад тым усё больш і больш набывала беларускую апрычонасьць.

Ня цяжка пасьля гэтага ўявіць сабе, якую значную гістарычную й архітэктурную каштоўнасьць уяўляюць зь сябе руіны Крэўскага замку, аднак адным гэтае, на жаль, не зразумелае, але затое другім яно больш чым зразумелае і . . . таму яны сьвядома імкнуцца да іхняга канчатковага зьнішчэньня. Мы падзяляем абурэньне тых аўтараў, якія тры гады таму ў „Чырвонай зьмене" у артыкуле „Лепш адзін раз убачыць . . ." пісалі:

„На жаль, на сьценах замку няма навет ахоўнае дошкі. Мясцовая арганізацыя і некаторыя жыхары расьцягваюць каменьне замку для іхніх патрэбаў", — а там-жа ў артыкуле „Аўтографы . . . на фрэсках" да іхняга жалю далучыліся 16 абураных навукоўцаў, дадаўшы —

„Вельмі крыўдна, калі бачыш, як літаральна на вачох развальваецца Крэўскі замак.. Яшчэ год-два і абваляцца сьцены".

І відаць, усё гэтае зусім ня кранае Крэўскі сельсавет, бо ў „Зьвязьдзе" ад 1 ліпеня 1970 г. у артыкуле В. Шацілы „Помнікі культуры і турызм" зноў чытаем:

„Руіны старажытнага замку ў Крэве таксама не даглядаюцца і мясцовыя жыхары выкарыстоўваюць цэглу са сьцен для сваіх патрэб".

Зьнікненьне пагражае рэшткам Крэўскага замку. Аднак усё-ж ня можна адказнасьці за гэтае цалком ускласьці на старшыню Крэўскага сельсавету, які падпарадкаваны вышэйшым за сябе ўладам і ў раённых Смаргонях, і ў вабласной Горадні, і ў сталічным Менску, а тым балей у цэнтральнай Маскве. У тэйжа „Чырвонай зьмене" давялося мне пазнаёміцца з артыкулам Г. Сокалава „Ахове помнікаў — сілу закону", прысьвечаным замку Гэдыміна ў Троках, дзе, між іншага, ён піша:

„У часе аднаго з многіх наведваньняў гэтага замку, я прачытаў такі запіс у кнізе наведвальнікаў: „Здаецца, узяў-бы гэты замак на рукі і перанёс-бы да нас у Менск. Група мянчан".

І як-жа ўсё-ж добра, што знаходзіцца ён у Літоўскай, а ня Беларускай ССР. Ня гледзячы на забарону ўсемагучага Мікіты Хрушчова, Літоўцы аднавілі замак у Троках з руінаў, у якія ператварыла яго Другая сусьветная вайна, а каб ён быў у Менску, дык бяз сумлеву падзяліў-бы лёс усіх ягоных разбураных ужо па вайне помнікаў культуры, як Замчышча, падтаптанае пад сябе Паркавай магістраляй, як старадаўная Няміга, як вежа ратушы, як Марыінскі касьцёл і гэтак далей.

А што сталася-б менавіта, гэтак пацьвярджае В. Шаціла ў сваім кагадзе адзначаным артыкуле ў „Зьвязьдзе", калі, маючы на ўвазе сумную практыку Беларускага таварыства аховы помнікаў гісторыі й культуры, адзначае:

„На жаль тут пакуль што, апрача добрых разважаньняў, справа ня йдзе".

Дык сьпяшайцеся пабачыць, або ўявіць сабе, нібы перад сваймі вачыма, сьвятыя Крэўскія крушні, пакуль яны яшчэ канчаткова ня зьнішчаныя ворагамі Беларусі. А яны разбураць іх, бо руіны гэтыя ўвачавідкі даводзяць усю веліч мінулага ў параўнаньні з сучаснай калгаснай нэндзай.

**Юрка Віцьбіч**

# БЕЛАРУСКАМУ КАЛЯНДАРУ 450 ГАДОЎ

З 450-мі ўгодкамі ад выхаду ў 1522 годзе ў Вільні першае друкаванае кнігі на беларускай зямлі, МАЛОЕ ПАДАРОЖНАЕ КНІЖКІ Доктара Скарыны, прыпадаюць сёлета й іншыя важныя ўгодкі друку — 450-годзьдзе ад паявы першага беларускага друкаванага каляндара.

Скарынаў каляндар быў складовай — апошняй пятай — часткай ПАДАРОЖНАЕ КНІЖКІ. Фармату малога, „падарожнага", каляндар гэты мае 20 балонак (40 бачынаў) друку сваёй асобнай нумарацыі. Пачынаецца каляндар загаловачнай бачынай, аздобленай дрэварытнай рамкай, складзенай з чатырох, расьліннага арнамэнту, заставіцаў. Далей, на 12 разваротах, памешчаны памесячны каляндар сьвятаў і сьвятых на кажны дзень году „па ўставу Ерузалімскае царквы", з дадаткам каляндарна-астранамічных інфармацыяў. На 15 канцовых бачынах надрукаваная ПАСКАЛІЯ — даведнік пра даты рухомых сьвятаў на дванццаць гадоў, на гады 1522 — 1542, пра час пастоў, пра зацьменьні сонца ды месяца.

Унізе бачыны апошняй дадзеная замыкальная даведка аб тым, што „Сьвятцы й паскалію" выдаў Доктар Францішак Скарына ў „слаўным месьце Віленскім". Дык з графічна-друкарскага й выдавецкага боку каляндар аформлены як друк самастойны. Сяньня ведама, што й пашыраўся ён ня толькі з ПАДАРОЖНАЙ КНІЖКАЙ, але й як выданьне асобнае.

Доўгі час быў ведамы толькі адзін экзэмпляр календара Скарыны, што перахоўваецца ў Публічнай бібліятэцы Ленінграду. Але й у ім неставала 8 канцовых балонак ПАСКАЛІІ. Да гэтага, ніжнія рагі й балонак захаваных, дзеля ўжытку стагодзьдзямі, пальцамі карыстаючых у календары зьліснатыя з часткаю навет тэксту. Сьветчыць гэта пра вялікую колішнюю практычную ўжытковасьць календара. Гэта паясьняе таксама, чаму календары Скарыны не захаваліся ў большым ліку. Пры частым ужытку яны проста „зачытваліся".

Толькі ў 1971 годзе, у МАЛОЙ ПАДАРОЖНАЙ КНІЖЦЫ Каралеўскае бібліятэкі Капэнгагі, выяўлены быў другі, і ўжо камплетны, каляндар Скарыны. З таго, што капэнгагская ПАДАРОЖНАЯ КНІЖКА дасканальна захаваная, можна мяркаваць, што на захад Эўропы яна трапіла хутка пасьля надрукаваньня, зусім магчыма яшчэ за жыцьця Доктара Скарыны, і таму ніколі ня была ў шырэйшым практычным ужытку. Дзякуючы вось гэтаму й захавалася, у поўнай камплетнасьці ды ў дасканальным стане, і каляндар гэтае кніжкі.

І „сьвятцы" — паказьнік сьвятаў і сьвятых, і „паскалія" — даведнік пра дні рухомых сьвятаў у паасобных гадох, былі галоўнымі складовымі часткамі тагачасных календароў. Да іх Доктар Скарына дадаў важныя каляндарна-астранамічныя інфармацыі. І таму каляндар ягоны ня толькі каляндар рэлігійны, але й сьвецкі.

Каляндар Скарыны дае „неамыльна напісаньня" інфармацыі пра поўныя й частковыя зацьменьні — „гібелі" — сонца й месяца, пра рух — „бег" — сонца праз 12 сузор'яў задыяка, пра рух зораў „блудзячых", плянэтаў, пра дні зраўнаньня дня з ночай ды даты найдаўжэйшага й найкарацейшага дня й ночы году, пра даўжыню дня й ночы ў паасобныя дні кажнага месяца, азначаную „на нашу зямлю" самым Доктарам Скарынам ды пададзеную ў гадзінах і мінутах (мінуты Доктар Скарына называў „дробнымі"), ды некаторыя іншыя. Інфармацыі гэтыя паказваюць на грунтоўную веду рэдактара-выдаўца астранамічных асноваў календара, што ў доктара лекарскіх навукаў таго часу рэч зразумелая, бо-ж астраномію лекары тады вывучалі для практычных прафэсыйных патрэбаў.

Пачаткі астранамічнае веды Скарына здабываў у гадох 1504 — 1508 ужо на Кракаўскім унівэрсытэце, калі вучыўся там на факультэце тых „сямі навукаў вызваленых", у ліку якіх была й астраномія. А ў галіне астраноміі Кракаўскі унівэрсытэт якраз тады быў на ўзвышшах свае славы. Гадоў дзесяць перад Скарынам асновы астранамічных навукаў у Кракаве пазнаваў і Мікалай Капэрнік. Калі Гартман Шэдэль, выдатны нюрнбэрскі выдавец, у сваёй знакамітай „Хроніцы сьвету" 1493 году апісваў Кракаў, ён ня мінуў нагоды, каб не адзначыць, што ёсьць там „слаўны вялікім лікам выдатных і вучоных мужоў" унівэрсытэт, „на якім разьвіваюцца розныя навукі... найбольш аднак тамака красуе астраномія, і ў гэтай галіне няма слаўнейшае школы ўва ўсёй Нямеччыне".

Дачыненьне з астраноміяй меў Доктар Скарына й пазьней — у гады сваіх мэдыцынскіх студыяў, і пасьля іх заканчэньня, бо-ж і для прагнозу, і для тэрапіі лекары гэтымі часамі апіраліся й на астралёгіі, якая, ізноў-жа, грунтавалася на астраноміі ды праводжаных назіраньнях руху нябесных целаў. Ня прыпадкам гэта ў праскім габінэце Доктара Скарыны, як відаць на партрэце ў ягонай Бібліі, над кнігамі бібліятэкі завешаная была „spheera mundi" — схэма тагачаснага, дакапэрнікавага яшчэ, пагляду на геацэнтрычнае разьмяшчэньне ды рух нябесных целаў.

У часе практычнае лекарскае дзейнасьці рух „звёзд блудзячых", як называюцца ў ПАСКАЛІІ плянэты, Доктару Скарыну ціраз даводзілася сачыць на зорным небе, каб ці выясьніць прагноз, ці ўстанавіць найбольш адпаведны для дадзенага выпадку лек ды азначыць найбольш спрыяльны час яго ўжытку для цяжка хворых сваіх пацыентаў. Яскравы мастацкі абразок гэтага даў нам Максім Багдановіч у сваім ведамым вершы, што пачынаецца радкамі: „Скарына, доктар лекарскіх навук, у доўгай вопратцы на вежы сочыць зоры".

Скарынаў каляндар пачынаецца зь месяца верасьня, канчаецца-ж месяцам жніўнем, і гэта таму, што ў тыя часы каляндарны год на землях Беларусі, як і ўва ўсім Вялікім Княсьцьве Літоўскім, пачынаўся не, як цяпер, 1-га студзеня, але чатыры месяцы раней, 1-га верасьня. Вялікакняжая віленская дзяржаўная канцылярыя й у дыпламатычных ліставаньнях, і ў сваіх актавых запісах, верасьнёвага пачатку году трымалася яшчэ аж да палавіны XVI стагодзьдзя.

Пераше сьвята, аб якім Скарына ў ПАСКАЛІІ свайго календара дае даведку ў які дзень тыдня будзе яно прыпадаць, гэта Каляды 1522 году. З гэтага вынікае, што надрукаваны каляндар перад гэтымі Калядамі. З друку паказаўся ён відаць-бо каля 1 верасьня таго году, месяца, якім каляндар пачынаецца — тагачаснага пачатку каляндарнага году.

У сваёй частцы сьвятаў і сьвятых Скарынаў каляндар не каляндар на адзін нейкі год, не, як выдаюцца звычайна каляндары цяпер, каляндар аднагодны. Ён тыпу каляндароў „вечных", служыць меў найменш на гады 1522-1542. Дык быў гэта каляндар дваццацігодні й таму дні году ў ім не падзеленыя на тыдні й назоваў дзён тыдня пры днёх месяца ў ім няма, бо-ж яны кажны год мяняюцца. Гэта трэ было карыстаючаму з календара ўстанавіць самому на падставе ці пададзеных у ПАСКАЛІІ на час 20 гадоў каляндарных лічбаў „кругу сонца", ці арыентуючыся на паказаныя ў календары дні тыдня важнейшых сьвятаў для кажнага з дваццаці, ахопленых календаром, гадоў.

Нядаўна толькі выяўлены, у камплетнай цэласьці, каляндар Скарыны каштоўны вельмі, хоць дакладней і не дасьледжаны яшчэ, памятка друку „залатога веку" беларускае культуры. Важна тут тое, што гэта выданьне аўтарства ды ўкладу самога выдаўца, Доктара Скарыны. Дасьледнікам каляндар цікавы й як вельмі рэдкая — ведамая ў вадным толькі камплетным экзэмпляры — памятка першых дзесяцігодзьдзяў эўрапейскага друку, і як першы друкаваны каляндар Беларусі. Пададзенымі — і не пададзенымі — у ім сьвятамі й сьвятымі ён вельмі цікавае выданьне для гагіёграфаў ды гісторыкаў царквы Беларусі й усходу Эўропы. Сваімі астранамічнымі інфармацыямі, асабліва пра час „гібелі", час зацьменьняў сонца ды месяца ў месьце друку, у Вільні, павінен ён зацікавіць гісторыкаў астраноміі на землях Беларусі, хоцьбы для спраўджэньня, наколькі даведкі гэтыя дакладныя.

Моваведы на календар Скарыны зьвярталі ўвагу даўно. Ім ён цікавы найперш сваёй каляндарна-астранамічнай тэрміналёгіяй, беларускімі назовамі месяцаў, дзяцацці сузор'яў задыяка, сваёй беларускай мовай наагул. Назовы месяцаў дадзеныя ў календары ў дзьвюх мовах — царкоўна-славянскай і беларускай, для прыкладу: ОКТОВРИЙ РЕКОМЫ ЛИСТОПАД. Доктар Скарына пры гэтым зацеміў, што назовы царкоўнаславянскія, гэта назовы „кніжныя", ці бо назовы, якіх народ у сваёй мове ня ўжывае.

Скарынаў каляндар, калі супаставіць яго з тыповымі тагачаснымі заходнеэўрапейскімі календарамі, вызьдзяляецца дадатна сваім паважным, строга рачовым даведачным зьместам. Эўрапейскія календары вельмі часта тады былі запоўненыя радамі пра „шчасьлівыя" й „нешчасьлівыя" дні году для гэтага, каб сеяць, садзіць, пушчаць кроў, адымаць ад грудзей сысункоў, хадзіць у лазьню, надзяваць новую вопратку, стрыгчы валасы, ды таксама прадсказаньнямі пра пагоду, ураджаі, неўраджаі, голад, няшчасьці, пошасьці, войны. Гэткіх забабонных радаў ды варожбаў у свой каляндар Францішак Скарына, доктар філязофіі й лекарскіх навукаў, не дапусьціў.

Прызначаў Доктар Скарына свой каляндар сваім праваслаўным веры суродзічам, бо сьвятцы ягонага календара. праваслаўныя сьвятцы. Укладаў і выдаваў яго ён не для патрэбаў царкоўных, але для шырэйшага народнага ўжытку, для ўжытку сьвецкага. Як ягоны календар успрынялі ягоныя тагачаснікі, пра гэта найлепш сьветчыць тое, што з усіх пашыраных Скарынам на сваёй зямлі каляндароў захавацца змагло ледзь колькі балонак аднаго адзінага, ад частага карыстаньня блізу цалкам зачытанага таксама, календара.

Дык вызначанае Доктарам Скарынам заданьне — служыць ягоным суродзічам, ягонаму „люду паспалітаму", — каляндар выканаў аж да свайго татальнага блізу зьнішчэньня. Толькі дзякуючы шчасьліваму выпадку вестку пра сам друк Скарынам календара пераказалі нашаму часу захаваныя яго рэшткі. Лёгка маглі зьнішчыцца й яны, а разам прапаў-бы й усякі сьлед пра ягонае існаваньне наагул. Загінула-ж у ходзе бурных падзеяў цімала іншых беларускіх старадрукаў, у гэтым ліку й Скарынавых.

Каляндар Скарыны — першы друкаваны каляндар ня толькі на землях Беларусі, але й на прасторы ўсяго ўсходу Эўропы. Прайшло больш ста гадоў, пакуль у 1628 годзе ў Маскве паявіўся царкоўны друкаваны паказьнік сьвятаў і сьвятых, „Месяцаслоў". Першы-ж сапраўдны каляндар расейскі, каляндар, што даваў ужо й каляндарна-астранамічныя даведкі, надрукаваны быў толькі ў 1702 годзе, 180 гадоў пасьля календара Скарыны. І гэты каляндар друкаваўся яшчэ не на тэрыторыі Расеі, а за межамі, у Галяндыі, у Амстэрдаме. Склаў яго й выдаў на заказ цара Пётры І ведамы друкар-выдавец, рэфарматар кірыліцы, Беларус із Случчыны, Ільля Капіевіч-Капіеўскі.

Віленскі беларускі каляндар 1522 году яшчэ адзін прыклад таго, як культурна-духовыя патрэбы народу Доктару Франьцішку Скарыну заўсёды ляжалі на сэрцы. Ён войстра іх адчуваў, пра іх думаў, і, колькі было ў яго сілаў і магчымасьцяў, намагаўся іх і задаволіць. І гэтым разам, як і пры перакладзе ды друку беларускае Бібліі, матывы ягонае працы былі найперш грамадзка-патрыятычныя. Каляндар, як аказалася, для народу быў асабліва патрэбны. Вось дзеля гэтага Скарынавы каляндары заставаліся ў штодзённым практычным карыстаньні аж да іх татальнага блізу зьнішчэньня.

С. Брага

---

СЬВЯТОЙ ПАМЯЦІ

## АЛЯКСЕЙ ВІНІЦКІ

адыйшоў на вечны супачынак 23 лістапада 1972 году, на 81-ым годзе жыцьця, пра што ў глыбокім суме паведамляюць **Сем'і Вініцкіх і Арцюхоў.**

Лёс Анджэлес, лістапад 1972

---

**Вечар паэзіі Купалы й Коласа ў ангельскіх перакладах Веры Рыч** адбыўся ў Лёндане, Вялікабрытанія, 2 сьнежня сёлета. Ладзіла вечар Згуртаваньне Беларусаў Вялікабрытаніі (ЗБВБ), старшынём якога сп. Янка Міхалюк.

---

цыянальнага руху даводзіцца адсоўваць яшчэ далей, ужо ў XIX век хоць-бы да 1891 году — даты першага выданьня Багушэвічавае „Дудкі беларускае" зь ейнай славутай „Прадмоваю", што сталася праўдзе маніфэстам для Беларускага нацыянальна-культурнага руху..

І гэтак ужо й здавалася прынятым у гісторыі беларускага нацыянальнага руху лічыць ягоны пачатак ад Багушэвіча як „бацькі" й „Кругу Беларускага" — Беларускай Рэвалюцыйнай Партыі — Грамады — Сацыялістычнай Грамады як першых арганізаваных „дзяцей". Толькі ў прадгісторыі гэтага руху мог разглядацца, прыкладам, паўстанскі рух 1863 (дакладней — 1862-4) году. Бо хоць у такога ягонага лідэра, як Кастусь Каліноўскі, у сьведамасьці ўжо, кажучы Купалавымі словамі, і „лунала вялікая ідэя вызваленьня з паднявольля Беларусі", увесь гэты рух ішоў яшчэ не пад беларускім нацыянальным сьцягам, а пад агульным штандарам рэстаўрацыі, або рэстаўрацыі-рэканструкцыі былое Рэчы Паспалітае. Вельмі мала да апошняга часу было ведама пра гэткую зьяву, як студэнцкі часапіс „Гоман" 1884 году, каб уважаць яе не за ізаляваны эпізод, а за мамэнт нейкага шырэйшага руху.

Ды вось тыя новыя матар'ялы, якія былі адшуканыя апошнімі гадамі ў архівах царскіх часоў і пра якія мы згадалі напачатку, пралілі новае сьвятло на гэты часапіс і адкрылі абраз цэлага беларускага студэнцкага руху пачатку 80-ых гадоў XIX веку, у якім „Гоман" быў хіба найвышэйшым, але й не ізаляваным і ня першым мамэнтам руху, які можна выразна кваліфікаваць ужо як беларускі нацыянальны рух. Гэтак, у знойдзеным гэктаграфаваным, на 44 балонках, „Пасланьні да землякоў - Беларусаў", датаваным І студзеня таго самага 1884 году, што й „Гоман", чытаем:

**„Гады два таму назад (зн. у 1882 г. Н. Н.) сталі адчувацца нейкія прыкметы абуджэньня мясцовай інтэлігенцыі, гэта значыць пачаўся пэўны рух сярод Беларусаў, пра які загаварыў замежны друк, заўсёды чуткі да праяў грамадзкага жыцьця ў суседзяў... Пасьля гэтага і ў рускіх кансэрватыўных выданьнях падняўся лямант пра сэпаратызм і пасыпаўся цэлы рад выдумак маскоўскіх абаронцаў і іх беларускіх сяброў (такімі былі, напрыклад, артыкулы прафэсара Каяловіча ў „Новом времени"). Потым на пачатку бягучага году ў вадным зь першых нумароў часапісу „Студенчество" зьявілася кароткая рэцэнзія на першае „Пісьмо пра Беларусь", нарэшце, — піша далей аўтар, схаваны пад нерасшыфраваным яшчэ псэўданімам „Шчыры Беларус", — мне давялося ўбачыць само „Пісьмо" Данілы Баравіка, выданае, як бачна з прадмовы да яго, групай Беларусаў. Пасьля ўсяго гэтага ўжо нельга было не пераканацца ў тым, што і ў нас пакладзены пачатак таму ўдзячнаму руху, адсутнасьць якога так доўга адчувалася ў нашых краёх. У сувязі з гэтым абуджэньнем я горача вітаю вас, дарагія землякі! У добры час! Даўно пара ўзяцца за сумленную й цяжкую працу!"** (Цытуем паводля хрэстаматыі „Беларуская літаратура XIX стагодзьдзя. Склалі С. Х. Александровіч, А. А. Лойка, В. П. Рагойша", Менск 1971, б. б. 187-188).

„Пісьмо пра Беларусь" Данілы Баравіка (таксама, відаць, псэўданім), на якое адгукаецца аўтар „Пасланьня да землякоў-Беларусаў", таксама знойдзенае — яно таксама гэктаграфаванае, на 16 бал., датаванае І сьнежня 1882 году (гл. тамсама, бб. 185-186, 356).

Пасьля гэткага вымсўнага сьветчаньня сучасьніка і ўдзельніка, па абеглым нат аглядзе хоць-бы апублікаваных дасюль урыўкаў з гэтых дакумэнтаў (псўны іхны тэкст, нажаль, чамусьці яшчэ не апублікаваны) зарызыкаванае намі напачатку цьверджаньне, што пачатак беларускага нацыянальнага руху трэба цяпер датаваць 1882 годам — не павінна ўжо, здаецца нам, прадстаўляцца рызыкоўным. А той абеглы агляд ужо дае магчымасьць устанавіць наяўнасьць у гэтых дакумэнтах усіх асноўных ідэяў беларускага нацыянальнага руху — і ідэі беларускае самабытнасьці, і ідэі беларускае самастойнасьці, і нат усьведамленьня таго, што „характар гэтага руху павінен быць **вызвалені**", як цьвердзіў і падчыркваў у сваім „Пасланьні" „Шчыры Беларус".

Ды з 1882 годам зьвязаная й яшчэ адна нядаўная цікавая знаходка. Ужо не ў архівах, а ў старым польскім часапісе "Nowiny", № 287, 288 за 1882 год, у вартыкуле польскага дасьледчыка І. Карабіча „Слова пра песьню" знойдзеныя тэксты двух нязнаных дасюль гісторыі нашай літаратуры беларускіх вершаў — „Пад дуду" й „Зямелька мая". У першым вершы — „Пад дуду" — упяршыню ў дасюль ведамай нашай літаратуры маем ня толькі той вобраз „жаласнай дудкі", які пасьля ўжо знаходзім у Багушэвічавай-жа „Дудцы" і Купалавай „Жалейцы", але й першае ў беларускай паэзіі выступленьне ад імя мужыка з тымі-ж матывамі, што і ў Купалавым першым друкаваным вершы „Мужык", якім ён дэбютаваў у 1905 годзе. Такім парадкам, тут знойдзены першы пункт на тэй лініі, на якой пасьля паставіў свой першы крок Янка Купала. Найсьцісьлей можна было-б абазначыць гэтую лінію тэрмінам, ужытым калісь Троцкім як літаратурным крытыкам — „мужыкоўства" (тэрмін гэты Троцкі ўжыў у дачыненьні да расейскіх сялянскіх паэтаў і пісьменьнікаў 20-ых гадоў, як Сяргей Есенін ды іншыя; дарэчы, адзін з дасьледнікаў беларускае літаратуры, Л. Клейнборт, якраз згадваў таго-ж Есеніна ў сувязі зь Янкам Купалам). Гэта лінія стаўкі на „мужыка", арыентацыя на тварэньне беларускае нацыі як нацыі „мужыцкай", „плебейскай", як азначаў яе „Гоман" (хоць дакладней было-бы зваць яе, калі ўжо лацінскімі тэрмінамі, дык „рустыкальнай"-селавой, сялянскай). А ў канцавым выніку, і ў сацыяльна-палітычных тэрмінах — гэта лінія дэмакратызму, яшчэ сьцісьлей — дэмакратычнага сацыялізму — адна з найбольш вызначальных лініяў беларускага нацыянальнага руху ад самых ягоных пачаткаў.

У другім-жа вершы — „Зямелька мая" — маем, ізноў-жа ўпяршыню ў дасюль ведамай нашай літаратуры, вобраз „роднай зямелькі", які пасьля знаходзім у „Роднай старонцы" Няслухоўскага ды ў першым друкаваным вершы Коласа „Наш родны край", якім ён дэбютаваў у 1906 годзе. Такім парадкам і тут знойдзены першы пункт на тэй лініі, на якой пасьля паставіў свой першы крок Якуб Колас. Гэта лінія тае „праўдзівай, далёкай ад усякай хвальшы любові да бацькаўшчыны", у якой Максім Багдановіч як Коласаў крытык бачыў найбольшую, як ён казаў, „цэннасьць" вершаў гэтага паэты. Гэта лінія культываваньня зьявы, на абазначэньне якое ўжо ўжываўся ў нашай крытыцы тэрмін сучаснае псыхалёгіі „нацыянальны эрас". А ў канцавым выніку, і ў сацыяльна-палітычных тэрмінах — гэта лінія патрыятызму, завойстранага часам да нацыяналізму, хоць і ня „буржуазнага", а таго-ж „плебейскага", „рустыкальнага", дэмакратычнага ці дэмакратычна-сацыялістычнага — другая з найбольш вызначальных лініяў беларускага нацыянальнага руху ад самых ягоных пачаткаў. (Абодвы вершы — „Пад дуду" і „Зямелька мая" — перадрукаваныя ў тэй-жа хрэстаматыі „Беларуская літаратура XIX стагодзьдзя", б. б. 46, 47).

Гэтак выяўляецца, што сёлета мы можам — і павінны — адзначыць 90-годзьдзе ад нараджэньня ня толькі Купалы й Коласа, але й самога беларускага нацыянальнага руху, духовымі лідэрамі й найвышэйшымі рэпрэзэнтантамі якога ўвайшлі яны ў нашую гісторыю. І затым на часе было-б хоць пачаць у гэтым юбілейным годзе нейкую сыстэматызацыю ўсяго таго, што ведама нам пра гісторыю гэтага руху, у якую цесна ўвязаная й дзейнасьць нашых вялікіх сёлетніх юбіляраў Янкі Купалы й Якуба Коласа.

Прычыніцца да гэтага й мелася на ўвеце гэтымі абеглымі нататкамі.

Н. Недасек

## ВЫСЬВЯЧЭНЬНЕ ЦАРКВЫ БАПЦ У МАНЧЭСТАРЫ

Дзень 12 лістапада 1972 г. увойдзе ў гісторыю Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы на чужыне. У гэты дзень адбылося высьвячэньне собскімі сіламі набытага царкоўнага будынку—Царквы Жыровіцкае Божае Маці ў Манчэстары ў Ангельшчыне.

Набыцьцём царкоўнага будынку й афармленьнем куплі займаўся выбраны на царкоўным сходзе 27 лістапада 1971 г. Камітэт куплі царквы ў складзе прат. а. Янкі Абабуркі — настаяцеля парахвіі, Хведара Кажаневіча — старшыні, Янкі Калбасы — сакратара і Уладзімера Гінько — скарбніка. Камітэт прарабіў вялікую работу й вывязаўся із сваіх заданьняў вельмі добра.

Урачыстасьць высьвячэньня царквы была праведзеня адмыслова дэлегаваным Мітрапалітам Андрэем пратапрасьвіцерам а. Д-рам Аўгенам Смаршчком з Бэльгіі ў суслужэньні прат. Янкі Абабуркі — настаяцеля БАПЦ ў Ангельшчыне, а. Янкі Пякарскага ды сьвятароў УАПЦ а. Івана Гузава й дыякана Канстанціна Мацешука. У глыбака зьместоўнай і патрыятычнай казані а. Аўген Смаршчок расказаў пра Жыровіцкую Божую Маці й пра Беларускую Праваслаўную Царкву й Беларускі народ у мінуўшчыне й сяньня. Ёнжа прачытаў прывітаньне Мітрапаліта Андрэя Беларусам Манчэстару з нагоды высьвячэньня собскае царквы. З гэтае нагоды Мітрапаліт Андрэй выдаў за выдатную й бескарысьлівую працу для царквы пахвальную грамату Уладзімеру Гінько, Сяргею Рагялю, Генадзю Варэніку й Рыгору К.

Пасьля абраду высьвячэньня й Божай Службы адбылося ўрачыстае прыняцьцё для парахвіянаў і гасьцей, падчас якога ролю гаспадара выконваў Хведар Кажаневіч. У часе прыняцьця было шмат прывітальных прамоваў прадстаўнікоў беларускіх арганізацыяў у Ангельшчыне й гасьцей. Таксама шмат пісьмовых прывітаньняў было атрымана й прачытана ад Беларусаў Задзіночаных Штатаў, Канады й Аўстраліі.

**Янка Крушына**

## ХРЫСТОС НАРАДЗІУСЯ!

**Дарагія і майму сэрцу мілыя Суродзічы Беларусы,**
**Яго Высокапраасьвяшчэнства Мітрапаліт Андрэй, Дастойныя Айцы, нашыя вернікі БАПЦ, царкоўныя й грамадзкія працаўнікі, гэтым шляхам вітаю ўсіх Вас з нагоды Вялікага Сьвята Раства Хрыстовага й жадаю Вам шчасьлівага жыцьця й плённай працы на карысьць і дабро нашаму Вялікаму Беларускаму Народу ў Новым 1973 Годзе!**
**ХРЫСТОС НАРАДЗІЎСЯ — ЯГО СЛАЎЦЕ!**

**Япіскап Мікалай**

## ВЯСЁЛЫХ КАЛЯДАУ І ШЧАСЬЛІВАГА НОВАГА ГОДУ

*СЯБРОМ, ЗНАЁМЫМ І ЎСЯМУ БЕЛАРУСКАМУ ГРАМАДЗТВУ*

ШЧЫРА ЖАДАЮЦЬ

**ВІНЦЭНТ І РАІСА ЖУК-ГРЫШКЕВІЧЫ**

**УСІМ НАШЫМ СУРОДЗІЧАМ ШЧЫРА ЖАДАЕМ**

## ВЯСЁЛЫХ КАЛЯДАУ І ШЧАСЬЛІВАГА НОВАГА ГОДУ

STARDUST MOTEL and APARTMENTS
519 N. Ocean Drive, Hollywood, Fla., 33020
Tel. (305) 923-5531

**у сонечнай Флярыдзе на ўзьбярэжжы заўсёды цёплага акіяну.**

**Адчынены круглы год.**

**ЛЁНГІНА й УЛАДЗІМЕР БРЫЛЕЎСКІЯ — СОБСЬНІКІ**

**УВАГА!**

У сувязі з увядзеньнем новага паштовага парадку ў Канадзе ветліва прашу зацікаўленых у перапісцы зы мною карыстацца толькі ніжэй пададзеным адрысам:

Rt. Rev. Bishop Nicolay
524 St. Clarens Avenue
Toronto, Ont., Canada
M6H 3W7

## З КАЛЯДОЮ, З НОВЫМ ГОДАМ!

З Калядою, Грамадзяне,
Й з Новым Годам прывітаньне
Шле Рэдактар Вам Галоўны
І Рэдакцыі склад поўны!
Ах, прабачце за правіну,
Ды зыйшло нам з успаміну,
Што, хоць служым Вам гадамі —
Незнаёмыя Вы з намі.
Каб зыначыць гэту справу
І ўсёй крыўдзе даць паправу,
Ўжо дазвольце пры выпадку
Ўсіх прадставіць па парадку.
Вось, на лік нас не багата,
Ды працуем ўсе зацята:
Хто пісаць штось патрапляе,
Сну, ці раз, сабе ўрывае —
Прарабіўшы дзень працоўны,
Піша, піша аж за поўнач,
Датрымаць каб прырачэньня
Й не давесьці да спазьненьня,
Каб газэта, адным словам,
У пару была гатова.
Нек пасьпеў і выйшла з друку,
Вы чыталі, ды ні гуку
Не далі дасюль на тое,
Ці ё глузд, ці што благое
Ў тым, ці іншым напісаньні?
Ці Вам што да спадабаньня,
Ці да зганы ё ў газэце —
Аказацца час, Вашэці?!
І другі з нас клопат мае:
Адрысы зусюль зьбірае;
Хто-б падумаў, што-ж такое,
Ды зь нядбайнасьці людзкое
Кажны раз напрацавацца
Трэ, каб неяк разабрацца,
Дзе спыніўся на гасподзе
Ці адзін чытач-дабрадзей,
Што па ўходзінах паўгоду,
Як у рот набраўшы воду,
Ані словам не азьвецца,
Але ўрэшт, калі прачнецца,
Злосьць на нас усю зганяе,
Што газэта прападае.
Па чарзе цяпер наступны
Наш давозьнік дужа рупны,
Што газэту рэгулярна
Забірае із друкарні:
Сьвеціць сонца, ці нягода
Прэ адважна самаходам
Праз завоз густы, як цеста,
На другі ажно край места.
Ён туды й назад ў пасьпеху,
Бо спазьніцца, няма сьмеху,
Калі ў гэтым вінаваты,
Дык ня пусьцяць нават ў хату
Рассылальнікі, вядома,
Й давядзецца слаць самому.
Калі мова ўжо пра тое —
Расссылальнікаў ў нас двое:
Дык адзін із іх — гуртовы,
Бо хлапец ён адмысловы, —
Ўвішна выправіць газэту
Ува ўсе куточкі сьвету.
Ўраз за пачкай вяжа пачку,
Накладзе капу на тачку
Й сваёй сілаю, бяз кошту,
Завязе ўпадбег на пошту.
І другі спрыцён падобна:
Шле газэту паасобна
Тым, каму з прычыны лёсу
Жыць далёка давялося
Ад грамадзкіх асяродкаў
Між чужымі адзінотна.
Колькасьць гэткіх не малая,
Ды з таго не наракае
Наш Рассыльнік спэцыяльны —
Прыйдзе нумар — мамэнтальна
Ўвесь складзе ён, сашпіляе,
Ні часіны ня губляе,
Адрысы наклеіць, маркі,
Пасартуе й зьвяжа шпарка
І няма яму спачынку,
Аж на пошце ўкіне ў скрынку.
Грэх нам быў-бы, каб пахвалы
Ня было для ўсіх удалых
Прадстаўніцтваў вакол сьвету,
Што ахвярна на газэту
Працы цяжкае ня мала
Аддаюць і часу стала,
Бо ў ваднэй ўсяго асобе
Кожан зь іх ўсё тое робе,
Што у большай меры толькі
Ў цэнтры робяць людзей колькі.
Абавязкаў маюць нізку:
Трэба-бо спагнаць падпіску,
А як прыйдзе нумар новы,
Адрысы ўжо мець гатовы
Й борзда выслаць, не спазьніцца,
Ды з рэдакцы'яй разьлічыцца . . .
Вось, ўсё разам ўзяўшы тое:
Прадстаўніцтвы ў нас — гэрої!
Як Вы толькі-што пачулі,
Тут разьлік мы закранулі,
Бо наш скарбнік наракае,
Што ўсё грошай не хапае,
Як аплаціць канчаткова
Кажны нумар ён чарговы,
Дык у нашай сьціплай касе
Мала ёсьць чаго ў запасе.
Каб пазбыцца бедаваньня,
Да Вас просьба, Грамадзяне,
Прыпамінаў не чакайце —
Грошы ў пору прысылайце,
Бо шмат практыку з Вас мае,
У чужынцаў як купляе
„Новы Сьвят", ці „Нова Слова" —
Заплаціць ім трэ часова.
Ня інакш „Гвязда Полярна" —
Бярэ грошы рэгулярна.
Скорзь, падпішчык як марудзе,
Дык дарма чытаць ня будзе.
А у нас дык гэта справа
Йдзе дагэтуль дужа млява —
Нат трапляюць дзе-якія
На ўсе заклікі глухія,
А спыніць газэту, верце,
Закрыўдуюць аж да сьмерці.
Што-ж рабіць, Вы адкажэце,
Не прапасьці каб газэце?
Вось і блізка заканчэньня
Ваша з намі знаямленьне
І згадае пэўна кажны,
Што цяпер найболей важны,
Ды між роўных болей роўны
Сам Рэдактар наш Галоўны
Гурт малы наш завяршае.
Ён турботаў найбольш мае:
Адкуль ўзяці матар'ялу,
Каб на цэлы нумар стала,
Што зьмясьціць, а што ня можна,
Бо быць трэба асьцярожна,
Не зрабіць каму каб злосьці,
Як пагладзіш супраць поўсьці.
Ён адказны за ўсё чыста,
Ці рассыльнік у час выслаў,
Ці газэта дзесь прапала,
Або ў касе грошай мала,
Артыкул не спадабаўся,
Або ў друку памыл стаўся —
Жаль які хто толькі мае,
На рэдактара складае
Без разбору ўсю правіну,
Хоць чыя таго прычына . . .
Як падумаць, проста дзіва,
Што трывае ён цярпліва
І хоць як бывае цяжка,
Ўсьцяж працуе як мурашка!
Апісалі мы клапоты
Й безьліч нашае работы
Не па тое, каб хваліцца,
Але неяк спрычыніцца,
Каб газэта ўрэшце стала
Ў нас агульнай нашай справай,
Бо Вы сьведамы самыя —
Без газэты — мы нямыя!
Й не астане па нас гуку,
Калі сьледу няма ў друку.
Мы малою грамадою,
Колькі сілы ёсьць людзкое,
Не шкадуем намаганьня,
Каб запэўніць існаваньне
Беларускай ў цэлым сьвеце
Аднэй вольнай хоць газэце.
Ды змарнуюцца стараньні,
Як ня будзе падтрыманьня
Для ахвярнай нашай працы
Ў беларускай эміграц'і.
Настае цяпер Год Новы —
Ўсе мы робім пастановы,
Каб зьвярнуць як да папраўы
Усе чыста нашы справы;
У навагаў гэткіх радзе
Йшчэ адна няхай западзе
Ў беларускай кажнай хаце:
„Беларуса" падтрымаці!
Хто напіша, будзем рады,
А таксама за парады
Ды ўжо кожан, як магчыма,
Няхай ськінецца грашыма,
Бо хоць робім мы дармова,
Ўсе рахункі без адмовы
Патрабуюць ў час заплаты,
Дык ня будзьма вінаваты:
У грамадзкім абавязку
Зрабем кожан сваю частку,
Бо злажыўшы разам сілы,
Беларусі нашай мілай
Мы паможам яшчэ болей
У гаротнай ейнай долі!
На канец сказаць тут месца,
Што па праўдзе шчыра з сэрца
Раз яшчэ на разьвітаньне
Добрых Сьвятаў пажаданьне
Шле Рэдактар Вам Галоўны
І Рэдакцыі склад поўны!



## Радасных Калядаў!

**СВАЯКОМ, ПРЫЯЦЕЛЯМ, ЗНАЁМЫМ І ЎСІМ СУРОДЗІЧАМ АД ШЧЫРАГА СЭРЦА ЖАДАЮЦЬ**

*АРСЕНЬНЕВА НАТАЛЬЛЯ*

*БАРТУЛЬ ВЕРА, ПРАНЬЦІШ і ДЗЕЦІ*

*БЕЛАРУСКІ ВЫДАВЕЦКА-МАСТАЦКІ КЛЮБ „ПАГОНЯ"*

*БЕЛЕНІС ЛЮДВІКА і АНТОН*

*ВЕРАБЕЙ МАРЫЯ і КАНСТАНЦІН*



*Інж. БРУЦКІ ЯНКА*

*Д-р ВЯРБІЦКІ АЎГЕН зь СЯМ'ЁЙ*

*ВОЙТАНКА МАТУШКА ФІЛЯМЭНА, ГАННА, МІКАЛАЙ і ЛЁНЯ*

*ВОЙТАНКА МАТУШКА МАРЫЯ, ЛЕНА, РАСЬЦІСЛАЎ і ДЗЕЦІ*

*Д-р ПЁТР ГАЙДЭЛЬ зь СЯМЁЙ*

*Інж. ГАРОШКА МІКАЛАЙ зь СЯМ'ЁЙ*

*ГРЭБЕНЬ МІКАЛАЙ*

*ГУТЫЧЫК ЛІТВІНА, СЯРГЕЙ і РАГНЕДА*

*ДАНІЛОВІЧ АЛЯКСАНДРА, БРАНІСЛАЎ і ЭДЗІК*

*ДАНІЛЮК МАРЫЯ і БАРЫС зь СЯМ'ЁЙ*

*Д-р ЗАПРУДНІК ВОЛЬГА, ЯНКА, НІНА й ВЕРА*



*КАЖАН ВІТАЛЬ зь СЯМ'ЁЙ*

*КАНАРЧУК ВОЛЬГА й ЯНКА*

*Інж. КАРАНЕЎСКІ МІКАЛАЙ, АЎГЕНЯ, СЬВЯТАСЛАЎ і МАРЫЛЬКА*

*КАРАНЕЎСКІ СТЭФАНІЯ, ФЛЯР'ЯН, ГЭЛЕНА, МІХАСЬ, ВАНДА, КАРАЛІНА, ЯДВІГА, ДАНУСЯ й МІХАСЬ малодшы*

*КАХАНОЎСКАЯ ЯНІНА З МАЦІ*

*КУНЦЭВІЧ МІКАЛАЙ*

*Д-р МАЛЕЦКІ ЯЗЭП*

*МАРКЕВІЧ АНТОН зь СЯМ'ЁЙ*

*МІЦКЕВІЧ АЛЯКСАНДАР зь СЯМ'ЁЙ*

*Д-р НАБАГЕЗ УЛАДЗІМЕР зь СЯМ'ЁЙ*

*НАЙДЗЮК ЮЗЯ, ЧАСЛАЎ, КАРНЭЛЯ й ЯДЗЯ*

*Інж. НАРУШЭВІЧ СТАСЬ, ВОЛЬГА й ЮРКА*

*Інж. НОРЫК КІНУСЯ й ЛЕАНІД і ДЗЕЦІ*



*РОДЗЬКА ВЕРА, ФІЛЯРЭТ зь СЯМ'ЁЙ*

*СТАГАНОВІЧ МАРЫЯ, АЛЯКСАНДАР і СЯМ'Я*

*Д-р СТАНКЕВІЧ ЗІНАІДА, СТАНІСЛАЎ і РАЯ*

*СТОМА НІНА й ВАСІЛЬ*

*СТРЭЧАНЬ АНДРЭЙ зь СЯМ'ЁЙ*

*СУБОТА КАЦЯРЫНА і АДОЛЬ*

*СУРВІЛА ІВОНКА, ЯНКА й ДОЧКІ*

*ШУКЕЛАЙЦЬ АНТОН*

*ЧАРНЭЦКІ ЯНКА й АЛЯКСНДРА*



## Шчаснага Году!

# ШТО ЧУВАЦЬ?

**Аднавіў свой выхад часапіс *"Byelorussian Youth* — Беларуская Моладзь".** Нумар 1-ы (27-ы) квартальніка, датаваны восеняй 1972 г., зьмяшчае на 24 старонках матар'ялы ў ангельскай і беларускай мовах (пажадана, каб у наступных нумарох быў падаваны „Зьмест"): вершы Я. Купалы ў ангельскім перакладзе і ў арыгінале; інфармацыя пра Беларуска-Амэрыканскую Арганізацыю Моладзі й хроніка ейнае дзейнасьці; артыкулы пра гісторыю Беларусі й беларускае жыцьцё ў Амэрыцы; легенду Власта „Сож і Дняпро"; зварот „Да нашага грамадзтва", у якім, між іншага, кажацца: „Выходзіць першы нумар маладзежнага часапісу, сьціплага й памерам і выглядам, але вельмі патрэбнага. І ўзяліся за гэтую справу мы — моладзь, каб надрабіць недаробленае й занядбанае, каб знаёміць сяброў нашае арганізацыі ці пашырыць, калі хто ўжо знаёмы, веды пра нашую беларускую спадчыну, каб вучыцца й расьці, каб ведаць і не забыцца, што мы — Беларусы". У канцы нумару вельмі важная абвестка, якую, трэба думаць, занатуюць сабе чытачы нашае газэты: „Калі хто пажадае навязаць кантакт із скарбнікам нашага часапісу, падаём ейны адрыс:

Ms. Halina Tumash,
3441 Tibbett Avenue,
New York, N. Y. 10463.

Вокладку для часапісу апрацаваў сп. Барыс Данілюк.

Дык шчасьлівага й даўгога шляху ў жыцьцё, „Беларуская Моладзь"!

**Урывак ліста ведамага савецкага біёляга іншадумца Жарэса Мядзьведзева да беларускага савецкага пісьменьніка Івана Мележа** зьмешчаны ў газэце „Нью Ёрк Таймс" за 20 лістапада 1972 г. Мядзьведзеў пытаецца, між іншага, у Мележа, які падпісаў быў артыкул з крытыкай раману Салжаніцына „Жнівень Чатырнаццатага", як ён, Мележ, і іншыя беларускія савецкія пісьменьнікі маглі асуджаць Салжаніцынаў раман, якога ніхто зь іх ня чытаў. „Глыбокі падыход да ацэны літаратурнага твору, ці-ж ня праўда?" гіранічна заўважае ў сваім лісьце Мядзьведзеў. Зь ліста даведваемся таксама, што на першы ліст Мядзьведзева да Мележа, беларускі „крытык" Салжаніцына ніякага адказу ня даў.

**Англа-Беларускае Таварыства абвесьціла праграму чароднае сэрыі беларусаведных лекцыяў на 1972-73 год,** які пачаўся 28. X. 72 дакладам Гая Пікарды пра кулінарыйныя звычаі ў сельскай Беларусі, а скончыцца (5. VI. 73) дакладам др. Багдана Струмінскага пра беларуска-ўкраінскія моўныя дачыненьні.

**Здымак з высьвячэньня новае беларускае праваслаўнае царквы** імя Сьв. Кірылы Тураўскага ў Рычмонд Гіле (частка Нью Ёрку) быў зьмешчаны ў газэце „Дэйлі Ньюз" (30. X. 72).

**„Беларуская энэргасыстэма,** — паводля газэты „Зьвязда" (19. XI. 72), — гэта больш чым паўтара дзесятка буйных электрастанцыяў агульнай магутнасьцю чатыры зь лішнім міліёны кілятаў, 170 тысяч кілямэтраў высакавольтавых лініяў электраперадач. У гэтым годзе ў рэспубліцы будзе выпрацаваны 21 міліярд кілеват-гадзін электрычнае й звыш 20 міліёнаў гігакалёрыяў цеплавое энэргіі.

„Энэргасыстэма Беларусі зьвязана зь міжнароднай сыстэмай ,Мір'. У гэтым годзе будзе перададзена Польскай Народнай Рэспубліцы 300 міліёнаў кіляват-гадзін электраэнэргіі й 400 міліёнаў — Германскай Дэмакратычнай Рэспубліцы".

**Беларуская ССР мае задоўжанасьць у бюджэт Задзіночаных Нацыяў на суму 377 тыс. даляраў,** паводля артыкулу Робэрта Алдэна ў газ. „Нью Ёрк Таймс" (25. XI. 72). Пра БССР у ЗН аўтар з рацыяй кажа, што гэта „адзін з трох галасоў Масквы".

**Першы том пяцітомавае „Гісторыі БССР" зьявіўся нарэшце ў продажы ў заходніх кнігарнях.** Кніга добра выдадзеная, хораша афармленая графічна, зь ілюстрацыямі, картамі, паказьнікамі й г. д. Што да ейнага тэндыйцыйнага зьместу, дык гэтае пытаньне высьвятляць будучыя рэцэнзэнты.

**Беларуская нафта вымяраецца цяпер ужо міліёнамі тонаў,** паводля газэты „Зьвязда" (10. XI. 72). „Сёлета будзе атрымана яе каля 5,8 міліёна тонаў", піша газэта.

**У Ньюёркаўскай Грамадзкай Бібліятэцы** (42 вул. і 5-я Авэню) адбываецца выстаўка (да 15 сьнежня) — „Мовы сьвету". На выстаўцы паказана каля дзьвюх тысячаў моваў і дыялектаў сьвету. Беларуская мова прадстаўленая вершамі Купалы й Коласа. У паясьняльнай нататцы адзначаецца, што беларуская мова — трэйцяя па вялічыні ў СССР і становіць дзяржаўную мову Беларускае Рэспублікі. У вітрыне картаграфічнага аддзелу паказаныя межы пашыранасьці беларускае мовы.

**На сходзе прадстаўнікоў паняволеных усходня-эўрапейскіх народаў у Брадфордзе, Вялікабрытанія,** які адбыўся 19. XI. 1972 г., была прынятая рэзалюцыя з асуджэньнем камуністычнага ўціску й эксплятацыі ды з дамаганьнем аднаўленьня асноўных грамадзянскіх правоў у краёх паняволеных расейскім камунізмам. Рэзалюцыі падпісалі прадстаўнікі ад Беларусаў (Я. Калбаса), Эстонцаў, Вугорцаў, Латышоў, Лятувісаў і Украінцаў.

**Да ліку інстытутаў у Менску дойдзе неўзабаве яшчэ адзін:** у 1973 годзе будзе арганізаваны Інстытут Павышэньня Кваліфікацыі Выкладчыкаў Грамадзкіх Навукаў пры Беларускім Дзяржаўным Унівэрсытэце з тэрмінам навучаньня да 5 месяцаў. На ўвесь СССР яшчэ адзін гэткі інстытут будзе створаны тымчасам толькі ў Навасібірску. Пра пастанову стварыць новы Інстытут падаў вестку „Вестник Высшей Школы" (Масква, 1972, № 8, б. 6).

Заснаваньне гэткага інстытуту якраз у Менску паказвае на патрэбу асабліваага ідэалягічнага нагляду над інтэлігенцыяй і жыхарствам Беларусі.

**Міліённы трактар „Беларусь"** зыйшоў з канвэеру Менскага трактарнага заводу 5 лістапада сёлета, як паведаміла газэта „Зьвязда" (6. XI. 72).

**Колькі ў Беларускай ССР спэцыялістых?** Залежыць, хто адказвае на гэтае пытаньне. У ўсесаюзным часапісе „Плановое хозяйство" (1972, № 7, б. 41) Коханаў, заступнік Старшыні Савету Міністраў БССР, кажа: „У народнай гаспадарцы рэспублікі занята **блізу 620 тыс.** спэцыялістых з вышэйшай і сярэдняй асьветай". Кляцкоў-жа, загадчык аддзелу арганізацыйна-партыйнае работы ЦК КПБ у часапісе „Коммунист Белоруссии" (1972, № 8, б. 13) падае іншы лік: „У розных галінах народнае гаспадаркі, культуры й навукі працуюць **звыш 570 тыс.** спэцыялістых, 235 тыс. зь іх — людзі з вышэйшай асьветай".

**Паходжаньне беларускіх прозьвішчаў** аналізуе ў сваёй кнізе пра славянскія прозьвішчы міжнародна ведамы славіст Б. Унбэгаўн. Кніга выйшла паангельску ў Лёндане ў 1972 г. і завецца „Расейскія прозьвішчы". Разьдзел беларускіх прозьвішчаў канчаецца разглядам беларускіх літаратурных псэўдонімаў. Аўтар адзначае таксама беларускія характарыстыкі ў прозьвішчах іншых народаў: Ліцьвіноў, Палякоў, Чэхаў, Жыдоў і інш.

## СПРЭЧКА ПРА БЕЛАРУСЬ У ЛЁНДАНСКАЙ ГАЗЭЦЕ

У лёнданскай газэце „Гэндон Таймс" (ведамай таксама пад назовам „Фінчлі Таймс") адбылася спрэчка вакол выстаўкі „Беларуская спадчына ў Лёндане" (пра выстаўку гл. у папярэднім нумары нашае газэты).

Спрэчка паўстала ў сувязі з пратэстам супраць выстаўкі жыдоўскага дзеяча Джака Ўэлбі, пра які падала газэта (20. X.). На гэта зарэагавалі лістамі ў рэдакцыю арганізатары выстаўкі й кіраўнікі беларускіх арганізацыяў у Лёндане. „Гэндан Таймс" (27. X.) надрукаваў гэныя лісты: ад біскупа Ч. Сіповіча, сп. Гая дэ Пікарды, сп. Янкі Міхалюка, аа. Рабэрта Тамушанскага й Аляксандра Надсана. Аўтары лістоў высьветлілі пытаньне блытаніны Беларусаў з Расейцамі ды падалі асноўныя факты пра выстаўку („Спадчына, зь якое трэба быць горды") і пра Беларусь. Газэта зьмясьціла таксама ўрывак зь ліста мэра Барнэту (раён Лёндану) да біскупа Сіповіча з выбачэньнем, што мэрава імя было без асновы ўблытанае ў спрэчку ды паставіла пад пагрозу ягоныя добрыя дачыненьні зь біскупам Сіповічам. Газэта падала таксама выбачэньне Дж. Ўэлбі, які кажа, што пра беларускую выстаўку ён згадаў адно, каб прыцягваць увагу да перасьледу Жыдоў у Савецкім Саюзе, але што прыкрасьцяў Беларусам ён не хацеў рабіць.

Прыхільную нататку пра выстаўку надрукавала таксама лёнданская газэта „Гамстэд энд Гайгейт Экспрэс" (13. X. 72).

## СЬВ. ПАМ. МІКАЛАЙ ЗНОЙТКА

Пасьля цяжкай і доўгай хваробы 22 кастрычніка сёлета адыйшоў на вечны супачынак на 61-ым годзе жыцьця сьв. пам. Мікалай Знойтка.

Нябожчык паходзіў зь вёскі Забярэзь Валожынскага павету. У вапрошнюю вайну служыў у польскім войску і, трапіўшы ў палон, апынуўся ў Нямеччыне, дзе працаваў на хвабрыцы парцэляны.

Пасьля вайны выэміграваў у Аўстралію, у горад Адэляйду. Працаваў тут цесьляром на будаўніцтве. Быў актыўным сябрам беларускай грамады ў Адэляйдзе. Прыймаў актыўны ўдзел у будаўніцтве БАП-Царквы. Але нешчасьлівым было ягонае жыцьцё. Спачатку часткава, а потым і поўнасьцяй быў спараліжаваны й даўгі час мусіў знаходзіцца ў шпіталі, а пазьней у вадмысловым доме для спараліжаваных, дзе й памёр, прыянўшы сьв. прычасьце ад а. Васіля Чычэліса.

Усе Беларусы, што былі вольныя ад працы ў дзень ягоных паховінаў, праводзілі на вечны супачынак свайго суродзіча. Абрад паховінаў выканаў а. В. Чычэліс пры ўдзеле хору нашае царквы пад кіраўніцтвам сп. Бурноса.

Няхай лёгкім пухам будзе зямелька на ягонай магіле!

**Сябра**

## НОВЫЯ ВЕРШЫ ГЕНАДЗЯ БУРАЎКІНА

**Генадзь Бураўкін** — нарадзіўся 28 жніўня 1936 г. ў вёсцы Шуляціна Расонскага раёну Віцебскай вобласьці ў сям'і служачага. Скончыў Беларускі Дзяржаўны Ўнівэрсытэт. Працаваў у часапісе „Камуніст Беларусі", на Беларускім радыё, намесьнікам галоўнага рэдактара газэты „Літаратура і Мастацтва". З 1968 году — карэспандэнт „Праўды" па Беларускай ССР, а ад лістапада сёлета — галоўны рэдактар часапісу „Маладосьць". Сябра КПСС.

Выйшлі наступныя зборнікі ягоных вершаў: „Майская просінь" (1960), „Зь любоўю і нянавісьцю зямною" (1963), „Дыханьне" (1966), „Жніво" (1971). У 1968 г. апублікаваў у часапісе „Маладосьць" празаічную аповесьць „Тры старонкі зь легэнды".

***

Люблю свой край,
зялёны і спакойны.
Сіваваронкі дрэмлюць на слупах.
Над хатамі —
вясёлыя шпакоўні,
А ў хатах —
аржанога хлеба пах.

Усё вакол
знаёмае да болю:
Зьбягаюць незабудкі да вады,
Сядае важна бусел на таполю,
Ад ластавак абвісьлі правады.

На ноч сплывае сонца за жытное.
Свой невад туманы павалаклі...
Сьвятое,
няпрыдуманае,
тое,
Чаго ня знойдзеш на чужой зямлі...

Такім свой край
навек люблю і помню.
І калі згасьне сонца у вачах, —
Мне будуць сьніцца
кожны дзень
шпакоўні
І аржанога хлеба родны пах...

**(Із зборніка „Жніво", 1971)**

***

Я над аджылым ня дрыжу —
Чаго за мёртвае чапляцца?
А даўніною
даражу,
Ня сыплю, як пясок,
скрозь пальцы.

Ня шкода песень і хвалы,
Хаця зямля на іх скупая,
Для Полацка,
што купалы
У сонцы ранішнім купае.

І над будзённасьцю муры,
Што мы наставілі пасьпешна,
Маўчаць нясьвіскія муры
І ў неба мкне Белая Вежа...

Стаю каля сівой красы,
Хаджу па гулкіх сутарэньнях —
І чую продкаў галасы,
І бачу нашых дзён карэньні.

І ў тым,
што немач не скарыла
Наш край,
няма ніякіх дзіў,
Бо тут калісьці жыў Скарына
І Каліноўскі ў бой хадзіў...

**(Із зборніка „Жніво", 1971)**

***

Не рабіце зь людзей багоў,
Хай людзьмі астаюцца людзі.
Як пасьля мы іх жорстка судзім!
Не рабіце зь людзей багоў.

Ня ўздымайце іх на п'едэстал,
Падстаўляючы ўгодліва сьпіну.
Усёроўна іх некалі ськінуць...
Ня ўздымайце-ж іх на п'едэстал.

Ачышчайце душы свае
Ад бяздумнасьці і багалюбства.
Слаўце волю і розум людзтва.
Як іх часта яшчэ не стае!
Не стварайце сабе багоў!

**(„Полымя", № 6, 1972)**

***

Вышэй за ўсё цаню я волю,
Але прашу мной валадаць
Цябе,
засеенае поле,
Цябе,
азёр начная гладзь.

Вам,
вечаровыя паляны —
Прытулак ягад і грыбоў,
Я буду самым паслухмяным
Добраахвотнікам-рабом.
Я згодны выплаціць даніну —
І на свой лёс не наракаць —
Вам, палымяныя яліны,
Табе,
засохлая рака,

Каб потым быў, як свой, прынятты
У дол маўклівы і руды,
Дзе сьпяць асеньнія зярняты
І дасьпяваюць жалуды...

**(„Полымя", № 6, 1972)**

### ВЯРТАНЬНЕ ПЕСЬНІ

**Ансамблю „Песьняры"**

Аж хістае сьцены палацаў
Гучных воплескаў вадаспад,
Калі хлопцы
„Скрыпяць мае лапці..."
Запяюць на сучасны лад.

Сэрцу радасна і балесна
Ад таго,
як прыходзіш зноў
Ты, мая беларуская песьня,
Да сваіх і чужых сыноў.

Дзе тыя выжарыны,
Дзе тыя прашчуры,
Што цябе,
як жаваранка,
Берaглі і лашчылі,
У туманы хуталі,
Грэлі пад пахаю,
Ціхую-ціхуткую,
Верасам прапахлую?...

Як крынічка, праз камні
і наледзі,
Ты прабілася з роднай зямлі
І ніякія беды і нелюдзі
Замуціць цябе не змаглі.

Ты-ж мая адзіная,
Ты-ж мая ніўная,
Ты-ж мая радзінная,
Ты-ж мая жніўная,
Ты-ж мая вясельная,
Ты-ж мая вясеньняя,
Ты-ж мая нязваная,
Ты-ж мая нязнаная,
Да грудзей прытуленая —
Матуліна...

Сьпявайце-ж, хлопцы, сьпявайце!..

**(„Літаратура і Мастацтва", 27 кастрычніка 1972)**

## ПОШУКІ

Сыноў **Браніслава Раманоўскага** 1923 году нараджэньня й **Канстанціна Раманоўскага** 1926 году нараджэньне, што раней былі ў Нямеччыне, шукае бацька Т. Раманоўскі. Весткі слаць на адрыс:

T. Romanowski
97 Kemer Street
Belmont
W. Australia, 6104.

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД "БЕЛАРУСА"

**За папярэдні пэрыяд (лістапад) паступілі ў касу нашае газэты падпіска й настуныя ахвяры на Выдавецкі Фонд „Беларуса":**

**1. Прыслана беспасярэдня ў Рэдакцыю:**

1. Д-р А. Занкавіч ........... $ 150.00
2. А. Шукелайць ........... 50.00
3. М. Баяроўскі ад Беларусаў Бірмінгам, Ангельшчына .... 46.40
4. Інж. В. Станкевіч ........... 25.00
5. Д-р Р. і В. Жук-Грышкевічы за калядныя і навагоднія віншаваньні ........... 25.00
6. В. і М. М. ........... 20.00
7. У. Р. ........... 20.00
8. Л. Вініцкі за кляпсыдру .. 20.00
9. Д-р Р. Жук-Грышкевіч за клішы ........... 20.00
10. Я. Э. Мітрапаліт Андрэй за кляпсыдру ........... 10.00
11. А. Качан за сямейную хроніку ........... 10.00
12. Н. Лапушынскі ........... 10.00
13. І. Кахаnoўская ........... 10.00
14. К. Верабей ........... 10.00
15. Я. Чарнэцкі за каляд. і навагод. віншаваньне ........... 10.00
16. Ч. Найдзюк за каляд. і навагод. віншаваньне ........... 10.00
17. А. Арсеньнева за каляд. і навагод. віншаваньне ......... 10.00
18. Я. Сурвіла за каляд. і навагод. віншаваньне ........... 10.00
19. Я. Каханоўская за каляд. і навагод. віншаваньне ......... 10.00
20. Я. Канарчук за каляд. і навагод. віншаваньне ........... 10.00
21. А. Міцкевіч за каляд. і навагод. віншаваньне ........... 10.00
22. Д-р Я. Малецкі за каляд. і навагод. віншаваньне ......... 10.00
23. М. Каранеўскі за каляд. і навагод. віншаваньне ......... 10.00
24. Інж. С. Нарушэвіч за каляд. і навагод. віншаваньне ....... 10.00
25. Д-р П. Гайдэль за каляд. і навагод. віншаваньне ......... 10.00
26. А. Шукелайць за каляд. і навагод. віншаваньне ......... 10.00
27. Інж. Я. Бруцкі за каляд. і навагод. віншаваньне ......... 10.00
28. Б. Данілюк за каляд. і навагод. віншаваньне ........... 10.00
29. Д-р Я. Запруднік за каляд. і навагод. віншаваньне ....... 10.00
30. С. Татарыновіч ........... 5.00

**Разам: $ 581.40**

**2. Сабрана сп. М. Ніканам сярод Беларусаў Мэльбурну (Аўстралія) у аўстр. валюце:**

1. М. Кулага ........... $ 10.00
2. А. Груша ........... 10.00
3. М. Нікан ........... 5.00
4. П. Мікуліч ........... 5.00
5. А. К. ........... 4.00
6. М. Андрэ ........... 3.00
7. У. Сідлярэвіч ........... 3.00
8. В. Каралюк ........... 3.00
9. М. Яўневіч ........... 2.00
10. Г. Шайпак ........... 2.00
11. В. Гушча ........... 2.00
12. У. Гірыс ........... 2.00
13. Э. Янкевіч ........... 2.00

**Разам:** (аўстр.) $ 53.00
**ЗША $ 66.00**

**3. Сабрана сп. П. Трысмаковам сярод Беларусаў Адэляйды (Аўстралія):**

1. Д-р Міленцэвіч ........... 23.00
2. П. Пачопка ........... 11.40

**Разам: $ 34.40**

**4. Сабрана сп. А. Маркевічам сярод Беларусаў Канады:**

1. Фірма Пятра за абвестку ЗША $ 31.00
2. К. Каранеўскі ........... 10.00
3. М. Т. ........... 6.00
4. В. Прыстаўка ........... 6.00
5. А. Хрэноўскі ........... 6.00
6. М. Сільвановіч ........... 6.00
7. Г. Даўгер ........... 3.00
8. І. Арэшка ........... 1.00

**Разам: $ 69.00**

**5. Сабрана сп. Стрэчанем сярод Беларусаў Кліўленду:**

1. М. Беламук ........... $ 10.00
2. М. Галоўка ........... 10.00
3. М. Махахей ........... 6.00
4. П. Дварэцкі ........... 6.00
5. А. Яраховіч ........... 6.00
6. Я. Каваленка ........... 6.00
7. К. Маталыцкі ........... 6.00
8. А. Міраеўскі ........... 6.00
9. З адзіночнай прадажы ..... 4.50

**Разам: $ 60.50**
**Усяго разам: $ 811.30**

**Усім тым, што прыслалі грошы, Рэдакцыйная Калегія „Беларуса" выказвае шчырае беларускае дзякуй!**